25 сакавіка Дзень Волі

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Немаральная прапанова → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3280) Год LXIV | Беласток, 24 сакавіка 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Першая прэзентацыя «Поўні» Міхала Андрасюка

**У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 14 сакавіка адбылася першая прэзентацыя кнігі мастацкай прозы Міхала Андрасюка «Поўня», выдадзенай Праграмнай радай Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва», пры фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. У белмузеі сабраліся жыхары Гайнаўшчыны, Беластока, Бельска-Падляшскага, якім цікавы былі сустрэча з пісьменнікам і размова пра кнігу. Асобы, якія паспелі прачытаць «Поўню», вельмі станоўча выказваліся пра яе.**



Прэзентацыю кнігі вёў Мікола Ваўранюк (сядзіць злева), Міхал Андрасюк, Яўген Вапа

— Урэшце дачакаліся. Пасля доўгага зацішша перад чытачамі неверагодна таямнічая «Поўня» Міхала Андрасюка. Літаратура бязмежная ў сваёй лёсавызначальнасці часу і прасторы. Сваімі вобразамі і словамі выспявала стагоддзямі ў магічным свеце Белавежскай пушчы і ўзляцела звыш межаў жыцця і смерці. Чытаўшы гэтую кнігу, мы можам на хвіліну адчуваць сябе ў некалькіх вымярэннях, але без патрэбы ставіць лішнія пытанні наконт свету бачанага і нябачанага. Поўня празаічнага таленту Міхала Андрасюка раскрываецца перад намі, — напісаў у кнізе «Поўня» Яўген Вапа, старшыня Праграмнай рады Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва».

Сабраных у кіназале Гайнаўскага белмузея прывітала бібліятэкарка Віялета Андрасюк і голас перадала вядучаму сустрэчу, рэдактару «Поўні» Міколу Ваўранюку, які спачатку коратка распавёў аб прэзентаванай кнізе.

— «Поўня» — найбольш аб'ёмістая кніга, у параўнанні з іншымі выданнямі аўтара. У ёй шмат магіі і невядомага, пераплятаюцца месцы і час дзеянняў. Напрыклад, герой з чацвёртага паверха беластоцкай кватэры адным скачком апынуўся ў вёсцы. «Поўня» абапіраецца на трохкутнік Белавежская пушча і яе наваколле, Беласток і Мінск, а герой з'яўляецца ў трох постацях — на вёсцы Міша, у горадзе Міхал і Міхаіл у царкве, — гаварыў вядучы Мікола Ваўранюк, звяртаючыся да Міхала Андрасюка.





— «Поўня» абапіраецца на гэты трохкутнік і ёсць маёй першай кнігай, у якой не пішу пра Гайнаўку. Я рашыўся выйсці з гайнаўскай прасторы далей, паколькі яна крыху губляе для мяне значэнне і з ацяпленнем я выязджаю з Гайнаўкі ў вёску (Войнаўку, — А.М.). Аднак я рашыўся, што першая прамоцыя «Поўні» будзе якраз у Гайнаўцы, — заявіў Міша Андрасюк, як яго называюць у наваколлі Белавежскай пушчы. — Цяпер пра нас, жыхароў пушчы, чую як пра варвараў, якія знішчаюць пушчу, а ў кнізе паказваю пушчанскага чалавека і яго вялікую пашану да дрэў. Відаць гэта ў абрадзе перад ссячэннем дрэва, калі пушчанскі жыхар абыходзіць дрэва, моліцца па-свойму, як бы прылашчвае дрэва, пакуль яго ссякуць. З майго дзяцінства крыху памятаю, што так і было. Была вялікая пашана да дрэва, страх перад дрэвам, якое ссякалі ў выпадку вялікай патрэбы. Гэты вобраз не сыходзіць з тым, што я чую цяпер аб пушчанскіх людзях, якія крыху і самі вінаваты гэтаму з-за сваіх выказванняў, калі ідзе змаганне за пушчу.

Сабраныя пачулі, што для героя «Поўні» Гайнаўка гэта звычайны горад. У Беластоку ўжо крыху ён губляе свае сцежкі, а новыя абставіны сустракаюць Мішу, калі робіць вялікі скачок з Войнаўкі ў двухмільённы Мінск.

— Мая кніга не прытрымліваецца часу, прасторы, законаў жыцця і смерці. «Поўня» таксама пра мары, фантазіі і пошукі ідэальнага кахання. Паказвае невялікую супольнасць, якая як сведка знаходзіцца на шляху гісторыі і вялікай гістарычнай махіны, на сутыкненні розных імперый, інтарэсаў і дзяржаў. «Поўня» пра гэтую нашу беларускую супольнасць і наш беларускі менталітэт, пра нашу прывязанасць да свайго месца на зямлі і згоду на свой лёс, калі ён нават цяжкі. У кнізе я зрабіў эксперымент, дзе ў рэальных сапраўдных рамках я паказаў не надта сапраўдны вобраз. Ёсць сапраўдныя імёны маіх продкаў, мясцовасці, месцы, якія можна знайсці і мне асабіста было важна, каб гэта было ў маёй кнізе, што робіць яе верагоднай. Можна, напрыклад, знайсці ў Палічнай дом з кніжкі, бэз, які расце за крыжам у Войнаўцы і іншае. Адначасна ў «Поўні» ёсць нерэальнае, фантастычнае, дзе сон пераходзіць у яву, дзе знікае мяжа паміж жывым і мёртвым і ўсё гэта паказана ў рамках рэчаіснасці, — патлумачыў аўтар «Поўні».

— Міхал Андрасюк узышоў вышэй, чым пісаў раней, уводзячы ў сваю кнігу многа новага. Маючы на ўвазе «Поўню», можна параўнаць Міхала да пісьменнікаў з паўднёвай і цэнтральнай Амерыкі, — заявіў вядучы сустрэчу Мікола Ваўранюк.

— Усе мы, пушчанскія людзі, ёсць за свабодай, але ў чаканні, што нехта падорыць нам свабоду, — гаварыў Міхал Андрасюк, спасылаючыся да цыганскі табар, які ідзе ў Старыну і знікае. — Заўсёды табар прыходзіць з захаду, ідзе ў гэтым самым напрамку і знікае. Крыху памятаю табары з майго дзяцінства, якія для мужыкоў, прышпіленых да сваёй зямлі, былі ўвасабленнем свабоды.

Колькасць цыганскіх вазоў і пушчанскіх дамоў у «Поўні» меншае. Пры канцы падзей герой не ведае, ці дом збудаваны яго бацькам з'яўляецца яго домам.

— Герой жыве ў свеце, які мяняецца і ў яго ўзнікае шмат пытан-

працяг ☞ 3

9 770546 196017



# Свята ці адзначэнне

Адразу дзве адметныя даты адзначае беларуская супольнасць у сакавіку бягучага года. Па-першае, гэта 25-я ўгодкі з дня прыняцця першай у гісторыі суверэннай Канстытуцыі. Па-другое, 101-я ўгодкі з часу існавання Беларускай Народнай Рэспублікі. Ні БНР як важнейшую з'яву ў гісторыі нашай дзяржаўнасці, ні айцоў БНР як выдатных дзеячаў і прадстаўнікоў нашай нацыі ідэолагі сучаснай Рэспублікі Беларусь фактычна не прызнаюць, ігнаруюць іх і ўсяляк пагарджаюць гэтай каштоўнасцю і спробай усталяваць беларускую дзяржаву сто гадоў таму. Начальнік РБ зусім нядаўна на „вялікай балбатні", якую прапагандысты назвалі „большим разговором" так наўпрост і заявіў, што лічыць асабістай абразай вылучаную прапанову дэмакратычнай супольнасці адзначыць 101-ыя ўгодкі на мінскім стадыёне „Дынама". Маўляў, гэта ж трэба такога нахабства набрацца, каб захацець адзначыць „самнiцельны празнiк" на цэнтральнай арэне беларускай сталіцы. І паслаў усіх беларусаў на ўскраек горада героя-Мінска — так званую Плошчу Бангалор. Тыя не пагадзіліся і на момант напісання гэтых радкоў фармат ні то свята, ні то адзначэння ўгодкаў БНР, так і не вызначаны. Адны прапануюць святочныя забаўляльныя канцэрты, іншыя — акцыі палітычнага пратэсту, трэція — нешта сярэдняе. Ясна толькі адно. Што ні пра якую кансалідацыю грамадства на базе каштоўнасцей БНР і гутаркі няма.

З Канстытуцыяй крыху складаней. Чвэрць стагоддзя таму яна была прынята Вярхоўным Саветам дванаццатага склікання. Не прызнаваць зусім факту прынятай пад гербам Пагоня і бел-чырвона-белым сцягам Канстытуцыі дзяржаўныя чыноўнікі не могуць. Але прызнаюць яе, як гаворыцца, скрозь зубы, не хочучы. Канешне, ніякага выходнага ў гэты дзень у дзяржаве, ніякіх шырокіх святкаванняў, а толькі шэраг фармальных і афіцыёзных пасяджэнняў.

Грамадскія актывісты таксама не вельмі спяшаліся святкаваць чвэрць стагоддзя айчыннай Канстытуцыі. І не таму, што не хацелі. А таму, што не выпадае святкаваць. Вядомы актывіст з Гомельшчыны Дзяніс Рабянок так наўпрост і сказаў: „Нельга святкаваць тое, чаго няма!". Гістарычны факт то прыняцця гэтай Канстытуцыі ёсць, ёсць і фізічна надрукаваныя асобнікі гэтай Канстытуцыі і размешчаны яе тэкст на прававых парталах у інтэрнэце. А рэальнага дзеяння гэтай Канстытуцыі няма. Таму і радасці ніякай з яе наяўнасці. Гарадзенскі актывіст АГП Мікалай Салянік правёў замест святкавання перформанс пад назвай „Пахаванне Канстытуцыі". На многія свае судовыя пасяджэнні ён прыходзіў з некалькімі асобнікамі асноўнага закону краіны ў розных рэдакцыях, але так ні разу і не дамогся, не дачакаўся законнасці і справядлівасці.

Як ставіцца ўлада да прынцыпаў Канстытуцыі добра відаць і ў Брэсце, дзе людзі спрабуюць выказаць сваё абурэнне і пратэст супраць пабудовы шкоднага завода акумулятарных батарэй. За так званыя акцыі кармлення галубоў грамадзян затрымліваюць, штрафуюць на вялізныя сумы, засуджваюць да адміністрацыйнага арышту. А на тых, хто найбольш імкнецца даць праўду людзям пра існы і сапраўдны стан рэчаў з гэтым заводам, пачынаюць крымінальныя справы. Як, прыкладам, на блогера Сяргея Пятрухіна. Іншага берасцейца, Віталя Казака, міліцыянты падманным чынам заваклі ў пастарунак на выходныя толькі за тое, што ён пасмеў ускласці вянок на месца раскопу, дзе выяўлены шматлікія шкілеты ахвяр Другой сусветнай вайны, закатаваных жыхароў горада ў час нямецкай акупацыі. Вось такая „ахова правапарадку" і такое дзеянне Канстытуцыі. І вось так улада абыходзіцца з тымі грамадзянамі, што імкнуцца да праўды, галоснасці, справядлівасці.

25 Сакавіка годна і ўрачыста пройдзе ў многіх гарадах свету, дзе жывуць беларусы. Але пакуль на Бацькаўшчыне будзе такая змрочная сітуацыя, то і гэтыя імпрэзы будуць хутчэй адзначэннямі, а не Святам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Канцэпцыя Свамердама

Магнітны паўночны полюс, да якога адвечна кіруюцца компасы, рухаецца ў напрамку Расіі — сказалі даследнікі. Эх, Расія, зноў жа яна! Фактычна, у апошнія гады тэмпы зруху магнітнага полюса ў бок Сібіры (ад канадскай Арктыкі) хутка паскараюцца. Адна з тэорый, якія спрабуюць растлумачыць паскарэнне руху магнітнага поля Зямлі кажа, што цяпер ідзе натуральны працэс звароту, гэта значыць, што магнітныя полюсы Зямлі мяняюцца месцамі, што з'яўляецца найбольш паўтаральнай з'явай у гісторыі зямнога шара. Другая, тэорыя змовы, абвінавачвае ў гэтых зменах Пуціна і яго хеўру. Выкарыстоўваючы сакрэтную ваенную тэхніку, яны нібыта ўплываюць на магнітнае поле Зямлі. Гэта не зусім зразумела, ці наступіць змена суровага клімату цяперашняга паўночнага паўшар'я на цёплы паўдзённы. Калі так, то несумнеўным бенефіцыярам гэтых зменяных будзе... Расія, тузаная, з-за свайго «паўночнага» расплажэння, халодным кліматам. Раптам яна стала б краінай міжземнаморскай мяккасці, з малочна-мёдным дастаткам. Ужо валодаючы нафтай і газам, бязмежным багаццем, і велізарнымі сібірскімі прасторамі, стала б яна ў гэтым выпадку пазачасавай сусветнай звышдзяржавай. А хто тады падскочыў бы да яе? Аж дзіўна, што такія глупствы слухаюць людзі! Ды ўсё ж яшчэ вельмі мала ведаем пра рэальнасць, якую дадзена нам звездаць.

Нашы веды аб свеце не з'яўляюцца ні няспынныімі, ні паслядоўнымі. Гэта хутчэй архіпелаг астравоў уразумення ў велізарным акіяне нябачнасці. Чалавечы розум не трывае пазнавальных прабелаў, усімі сродкамі спрабуе запоўніць іх нават інтэрпрэтацыяй не прамым чынам. Значыць, ведамі невуцтва. Але невуцтва па меры адзінкавага невуцтва. З яго нараджаюцца плёткі і іх сёстры — тэорыі змовы.

Самы светлы чалавек сваёй эпохі, рымскі паэт Вяргілій у чацвёртай кнізе знакамітых «Георгік», прысвечанай пчолам, дае шэраг інфармацый, якія паказваюць узровень сучасных ведаў аб гэтых вельмі карысных насякомых. Паводле яго слоў, яны ўзнікаюць з... гнілога мяса. З бычынай падлы нараджаюцца самыя працавітыя асобені, з папсаванай ільвінай галавы — каралевы, са смярдзючай ялавічыны або цяляціны — працавітыя або слабыя пчолы. Гэты смешны сёння прыклад чалавечага невуцтва быў канонам ведаў аб пчолах на працягу сотняў гадоў. Але! На працягу тысячагоддзяў іншым, не менш яркім прыкладам было пытанне наконт пчалінага полу. Аж да нашага часу каралева меданосных пчол лічылася самцом, апладняючым усіх працоўных пчол, а трутні лічыліся выраджаным патомствам. Пануючыя на гэтую тэму забабоны і фальшывыя веды выдаліў толькі ў XVII стагоддзі галандзец Ян Свамердам, які даказаў, што «кароль» гэта самічка, труцень — самец, а працавітая пчала гэта «ні адно з іх і адначасова штосьці з іх абодвух».

Навядзенне трымаецца за чалавека, як вош. З часоў палеаліту. Магчыма, служыць чамусьці. Сучасныя веды аб чалавечай прыродзе, пачынаючы ад яго псіхічнасці, праз біяхімію арганізма і глыбей, да малекулярных злучэнняў утвараючых спіраль ДНК, з'яўляюцца вострававм уразумення ў вялізным акіяне невуцтва. Напрыклад, мы на самой справе не разумеем, чаму эвалюцыя дазваляе на тое, каб частка, прытым немаргінальная, чалавечай папуляцыі выяўляла гомасексуальныя схільнасці, прытым шырока распаўсюджаныя ва ўсіх млекакормячых. Гетэрасексуальнасць уяўляецца быць згоднай з асноўным пастулатам эвалюцыйнага натуральнага адбору. З гэтага вынікала б, што гомасексуалізм гэта сляпая сцежка эвалюцыі. Але яна бяжыць паралельна з асноўнай. Гомасексуалізм з'яўляецца біялагічным фактам, але для многіх спрэчным. Магчыма, настаў час для яго, каб прымяніць вышэйшую канцэпцыю Свамердама, які паміж двума поламі, мужчынскім і жаночым, вылучыў трэці — «ні адзін з гэтых двух, і ў той жа час у чымсьці з іх абодвух». У рэшце рэшт, усе без выключэння мусім плаціць падаткі. Дык усе павінны мець аднолькавыя правы? Акрамя каралевы, вядома! Але хто б гэта быў? За гэтай роллю ў рэчаіснасці імкнецца польскае ПіС, плоднае ў перадвыбарных абяцаннях і разбэшчваючае грамадства радасным размеркаваннем дзяржаўных грошай. Нагадаю, аднак, што маці рою, губляючую плоднасць, пчаліная сям'я замотвае ў клуб і душыць. Прэтэндэнтак да каралявання ў вуллі хапае. Каб толькі ўсвядомленых у сваім невуцтве.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Абараніць саміх сябе і будучыню

Як не бач, а перад намі ўжо сто першая гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Цягам мінулага года беларусы Беласточчыны з годнасцю ўключыліся ў юбілейныя святкаванні, якія трывала ўпісаліся ў агульнабеларускі кантэкст. Самы галоўны акорд святкаванняў у падляшскай філармоніі і оперы напэўна для беларусаў у Польшчы быў той падзеяй, якая паказала нашу трывалую і адметную прысутнасць на сваёй, роднай зямлі. Убаку цягам года не стаяла і наша рэдакцыя. Рэдактар «Зоркі» Ганна Кандрацюк правяла адмысловы конкурс для дзяцей і моладзі, паспяхова завершаны ўрачыстым падсумаваннем у Бельску-Падляшскім. Конкурс «Мой герой» паказаў менавіта як важнымі і патрэбнымі з'яўляюцца маральныя аўтарытэты ў сённяшнім, атамізаваным грамадстве. Найчасцей шукаем іх у сямейным кругу. Таму яшчэ раз стала відавочным, што адказнасць за наша беларускае мы павінны выбудоўваць найперш сваімі асабістымі паводзінамі і станоўчымі прыкладамі. Узмацненне гэтага школьным і грамадскім беларускім кантэкстам напэўна дазволіць нам усім мець надзею на працяг нашай справы чарговымі пакаленнямі. Журналісцкія майстар-класы „Сустрэчы «Зоркі»" паказалі таксама, што справа стагадовай мінуўшчыны не чужая і неабыякавая наймалодшым беларусам.

Думаю, што менавіта святкаванне, якое пачалося ў палове 1980-х гадоў падпольна ў Польшчы, а пасля ўжо афіцыйна — цяпер надалей прыносіць свой плён. Маем чарговыя пакаленні людзей, якія святкуюць Акт 25 Сакавіка 1918 года не толькі са сваімі дзецьмі, але ўжо і з унукамі. Таму кожныя чарговыя ўгодкі маюць для нас вялікае грамадска-эмацыянальнае значэнне. Вяртанне з бяспамяцтва так важнай падзеі ў жыцці кожнага беларуса, у тым ліку і на Беласточчыне, пашыралася праз школы, сродкі масавай інфармацыі, сустрэчы, навуковыя выданні. Варта ўзгадаць яшчэ наш каляндар «Нівы», прысвечаны толькі сотай гадавіне БНР, які цягам года красаваўся ў хатах беларусаў Падляшша. Нягледзячы на ўсялякія складанасці, такім чынам ідэя і дата БНР трапіла пад агульнавядомыя стрэхі. Адным словам, здзяйсняюцца пэўныя мары і рэчы.

Сёння сама ідэя дзяржаўнасці, а гэтым самым неабходнасць ажыццяўлення беларускай дзяржаўнасці зразумелая для кожнага, хто адчувае сябе беларусам, нягледзячы на месца пражывання. Кожнаму відаць, што ў сённяшнім свеце дзяржавы — гэта для народаў гарантыя забеспячэння і абароны іх правоў. І самае важнае тут — момант думкі пра будучыню. Трэба заставацца нам у наступныя стагоддзі і народам, і дзяржавай. Гэта самае галоўнае. Цяпер на працягу апошніх гадоў маем дачыненне з пастаянным прасоўваннем паланізацыі ў нашай прасторы і русіфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Калі гаварыць пра выжыванне і далейшае быццё беларусамі, то вось гэтая абсалютная непавага да беларускасці, да роднай мовы з'яўляецца тым важным і, на жаль, сумным фактарам, які шмат у чым нас паслабляе. І таму святкаваць Дзень Волі для нас — гэта выратоўваць і дапамагаць самім сабе.

І калі мы глянем, як выбудоўваецца гісторыя паасобных народаў, то нават тое, што маем сёння на Беласточчыне, а менавіта спробу некаторых сіл з польскага боку са злачынстваў зрабіць гераізм, то наша беларуская памяць і гістарычная адказнасць не дазваляе хаваць галаву ў пясок. Таму святкаванне Акту 25 Сакавіка нам патрэбнае, каб неад'емную частку нашай агульнабеларускай і падляшскай гісторыі перадаваць чарговым пакаленням. На фоне гэтай падзеі, таксама адчуваем тое эмацыянальна-псіхалагічнае пачуццё, што мы не горшыя.

Чарговая, 101 гадавіна гэта тая дата, якая патрабуе ад нас таго часу і той нашай памяці, каб аддзячыць усім тым, хто змагаўся за незалежнасць думкі, за незалежнасць палітычнай дзяржавы, якая называлася Беларускай Народнай Рэспублікай. І гэтае памкненне з'яўляецца для нас тым нацыянальным і маральным запаветам, які павінен працягваць кожны беларус.

**Яўген ВАПА**

Алесь АРКУШ

(Пра кнігу Міхала Андрасюка „Поўня”)

# Таямніца, якая побач з чалавекам

Калі я прачытаў гэтую кнігу, сказаў сабе, ого, гэта зусім невядомы мне Андрасюк. Нічога падобнага з яго ранейшых тэкстаў мне не прыгадвалася. На першых старонках „Поўні”, калі аўтар апісвае гісторыю знаёмства з Юляй на менскім чыгуначным вакзале, я добра пазнаваў Міхала. Гэта быў той самы Андрасюк, якога я ведаў яшчэ па першай ягонай кнізе „Фірма”. У далёкім 2000 годзе я прывёз яе ў Полацк з гайнаўскага „Бязмежжа”. Але чым далей чытаў, тым усё больш аўтар кнігі рабіўся мне невядомым. А пры канцы чытання я нават збянтэжыўся. Што тут адбылося? Куды знік ранейшы Андрасюк?




Па шчырасці, пазнаваў я яго і ў другой палове кнігі. Але толькі таму, што добра ведаю стылістыку яго пісьма. Андрасюка сапраўды ні з кім не зблытаеш, бо ён стварыў свой адметны, лёгка пазнавальны, стыль. Яго асаблівасць — паэтычнасць мовы. У прынцыпе, можна браць асобныя ўрыўкі з „Поўні”, разбіваць іх на радкі і друкаваць як нерыфмаваныя вершы — верлібры. Чаму сёння Андрасюк не піша вершаў, для мяне застаецца загадкай.

Другая адметнасць стылю Андрасюка — гэта асаблівы рамантычны настрой ягоных тэкстаў, з такой лёгкай ироніяй. Ён можа апісаць нейкую зусім будзённую дзею, але ў ёй будзе столькі пачуцця, што ты пачынаеш верыць, ніякая гэта не будзённая дзея, а штосьці адметнае і значнае. Прычым ён так умее, літаральна некалькімі словамі, прамаляваць дэталі, што тую дзею бачыш як у тэлевізары.

Чытаючы кнігу, здзіўляцца я пачаў, калі Міхал, надзвычай падрабязна, апісаў дзіўны рытуал пераводу дрэваў з лесу для будаўніцтва хаты. Бабуля Міхала тлумачыць сямейнікам, што нельга проста ссекчы ў пушчы дрэвы дзеля зрубу, а „варта падумаць, хто падбярэ ўсе гэтыя сосны, хто замовіць іх добрым словам, бязбольна перавядзе з лесу...”. І такі чалавек знайшоўся — дзед Алімпей, які ў кнізе падаецца як містычны захавальнік таямніц пушчы, які прыходзіць і дае парады галоўнаму герою кнігі нават пасля смерці. І далей Андрасюк падрабязна апісвае, як дзед Алімпей замаўляе дрэвы (прычым падае і саму замову), і як тыя сосны пераводзяцца на месца будаўніцтва. Мяне гэта так уразіла, што я вырашыў удакладніць, ці было штосьці такое на самой справе. Калі я спытаў у Міхала, дзе ён бачыў такі рытуал, то без якіх-небудзь хітрыкаў ён мне сумленна адказаў: прыдумаў сам. Я дык быў упэўнены, што калі не бачыў на ўласныя вочы, дык абавязкова вычытаў недзе ў фальклорных зборніках. Але не, прыдумаў сам. Толькі такое немагчыма прыдумаць. Гэта трэба ведаць нейкай генетычнай памяццю.

І чым далей, тым больш кніга рабілася незвычайнай. Пачаў з'яўляцца дзед Дзмітрый, якога ніколі пры жыцці галоўны герой кнігі не бачыў, а затым і вучні, якіх некалі вучыў у вясковай школе, і менавіта тыя, што ўжо не жывуць. І тут паўстае сапраўдная метафізіка жыцця, тая таямніца, якая заўжды побач з чалавекам, толькі ён пра гэта не здагадваецца. А як вам сцэна, дзе галоўны герой частуе свайго дзеда Дзмітрыя папяросамі „Беламоракал”, знайшліся ў хаце — пачак заваляўся з даўніх-даўніх часоў? І як той дзед Дзмітрый узрадаваўся. Няўжо і гэта прыдумаў Міхал?

Ну а футбол, у які гуляюць поўняй мёртвыя сябры і былыя вучні героя кнігі супраць вечнасці. Ад гэтай сцэны ўвогуле бягуць мурашы па спіне. Ад яе містычнасці і ад яе рэальнасці. Бо ты яе бачыш.

І самая фантастычная сцэна, як галоўны герой вядзе па пушчы, паміж пушчанскімі вёскамі, спачатку сваіх нежывых вучняў, а затым да іх далучаюцца ўсё новыя і новыя маладыя мужчыны, якія пайшлі з гэтага свету „не ў час”, якіх забілі, немцы, рускія, палякі, французы, шведы... Ідуць яны ў вёску Тапіла, а нечакана прыходзяць да шырокага лугу Аконшчына. Калісьці ў дзяцінстве герой кнігі дапамагаў тут бацьку касіць траву. І сустракаюць там тры жанчыны, якія жнуць сярпамі траву забыцця.

„Пра што гэтая кніга?” — я спытаў у гэтых жанчын.

— Пра нас усіх, пра той шлях, прайсці які наканавана кожнаму, — адказала першая жанчына.

— Пра тых каго згубілі па жыцці, нават тых, каго не ведалі, але ўсе яны недзе побач, — адказала другая жанчына.

— Пра Свабоду, Праўду і Каханне, якія не прыходзяць самі, бо іх трэба заслужыць, — адказала трэцяя жанчына.

І хто ведае, на які луг выйдзе кожны з нас.

1 ☞ працяг

няў, а адказаў адназначных няма, — сказаў рэдактар «Поўні» Мікола Ваўранюк.





— Мая кніга ідзе па трохкутніку, але і па крузе, пазначаным сонцам і чалавечым жыццём. У заканчэнні лёс збудаванага дома не вызначаны, а герой застаецца на крузе, — удакладніў Міхал Андрасюк.

Аўтар «Поўні» прачытаў сабраным фрагмент кніжкі пра матч, які гулялі хлопцы ў час поўні.

— У мінулым я працаваў у школе ў Палічнай настаўнікам фізкультуры. Хлопцы, якіх я вучыў, пасля сталі паміраць і ў кніжцы можна прачытаць пра футбольны матч у час поўні месяца хлопцаў, якія адышлі ў вечнасць і не ведаюць з кім іграюць, — заявіў аўтар нававыдадзенай кнігі.

Гэты сам фрагмент у перакладзе на польскую мову прачытаў аўтар перакладу Марцін Рэмбач. Важным момантам у кнізе з'яўляецца таксама фрагмент, у якім апісваецца смерць пушчанскіх жыхароў з рук чужых у час войнаў і ваенных завірух, якія апошнімі стагоддзямі многа разоў праходзілі праз Белавежскую пушчу. Гэты фрагмент таксама чытаўся ўдзельнікамі прамоцыі кнігі, у якой можна таксама прачытаць пра бежанства, ссылку ў Сібір пушчанскіх жыхароў і вяртанні з іх.

— «Поўня» — гэта поўня бачанага і нябачанага нашага жыцця, поўня майстэрства, якое даспявала гадамі. Аўтар цяжка працаваў, каб свае думкі і свой жыццёвы вопыт, вопыт стагоддзяў сваіх бабуль і дзядуляў адлюстраваць у літаратурнай форме, якая цікавая чытачам. Чытач будзе мець дачыненне да гісторый, у якія ён не ў змозе паверыць. Аднак яны ў нашым свеце і ў свеце нашых бацькоў, дзядоў былі рэальнымі, дзе перапляталася міфічнае з жыццёвым і праўдзівае з няпраўдзівым. Такім быў свет пушчанскіх расказаў і слова, якое тут збіралася стагоддзямі, нарэшце ўспыхнула такімі аповесцямі. Прэзентаваная кніга Міхала Андрасюка паказвае яго спеласць, поўню яго таленту і яго адзіны, непаўторны стыль пісання, — ацаніў новую кнігу «Поўня» і яе аўтара галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва» Яўген Вапа.

— Літаратура Міхала Андрасюка жывая. Ён вельмі ўдала паказвае наш клімат і менталітэт нашых людзей, — гаварылі сабраныя пра творчасць пісьменніка з Войнаўкі, у якой зараз больш часу пражывае, чым у Гайнаўцы.

Аўтар часта наведвае Беласток, дзе вядзе перадачы на Радыё Рацыя. Міхал Андрасюк — аўтар кніг прозы «Фірма» (Беласток 2000), «Мясцовая гравітацыя» (Беласток 2004), «Белы конь» (Беласток 2006, перакладзены і выдадзены на польскай мове ў 2011), «Вуліца Добрай Надзеі» (Мінск 2010), «Wagon drugiej klasy» (Беласток 2010), «Krzyżyk» (Беласток 2015). Быў узнагароджаны «Залатым апострафам» часопіса «Дзеяслоў» і атрымаў літаратурную прэмію Прэзідэнта горада Беласток імя Веслава Казанэцкага.

— Кніга «Поўня» ёсць звышчасовай, а кожны прыме яе па-свойму і зразумее па-свойму. Гэта поўня нашага жыцця, слова, майстэрства, прыклад нашай літаратуры, якой можам ганарыцца, — дабавіў старшыня Праграмнай рады «Нівы» Яўген Вапа, ураджэнец Доўгага Броду, распаложанага па-суседску з Войнаўкай. У час спаткання перадаў ён падарунак свайму земляку, аўтару «Поўні» і падзякаваў таксама Юрку Асенніку і Паўлу Грэсю за прыгожае мастацкае афармленне нававыдадзенай кнігі.

— Мы рады, што ў нас адбываецца першая прэзентацыя кнігі «Поўня», — заявіла белмузейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк і ўдакладніла, што прамоцыя кнігі праходзіць у рамках праекта «Кірыліцай пісанае», фінансава падтрыманага Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі. Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і Віялета Андрасюк паінфармавалі, што ў белмузейнай бібліятэцы знаходзяцца ўсе кніжкі Міхала Андрасюка, а чарговыя прэзентацыі кнігі «Поўня» адбудуцца ў розных мясцовасцях у Беларусі і Польшчы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Аб чаромхаўскай культуры (2)

З пабудовай дома культуры «Калеяж» узніклі праблемы. Асноўным хібам было тое, што новапабудаваны цэнтр меў двух апекуноў — сацыяльна-тэрытарыяльны асяродак Седльцах і раду прафсаюза чыгуначнікаў у Варшаве. У важных справах партнёры не маглі дамовіцца. У дапамогу кіраўніку Мікалаю Гарадкевічу прызначылі інструктарку Крыстыну Гофман. Яна займалася арганізацыяй культурна-асветнай работы. Па суботах і нядзелях дэманстраваліся кінасеансы. Кінамеханікам быў Баляслаў Гіль. У клубе арганізаваліся сустрэчы з выдатнымі людзьмі і даклады на грамадска-палітычныя тэмы. Да цікавейшых трэба залічыць сустрэчу з доктарам Аляксандрам Баршчэўскім і даклад Васіля Базылюка з Гайнаўкі «Культурна-асветныя дасягненні ПНР у першым 30-годдзі». У «Калеяжы» арганізавалі ўласны харавы калектыў. Кіраваў хорам Міхась Артышэвіч. Два разы ў тыдні праводзіліся рэпетыцыі. Чаромхаўскія вакалісты выступалі з канцэртамі на вечарынах, прысвечаных дзяржаўным гадавінам, а на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 74» заваявалі III месца. У клубе працавала аматарская фатаграфічная група пад кіраўніцтвам Віктара Баранава. Гэты 26-гадовы юнак з'яўляўся старшынёй Грамадскай рады клуба, працаваў на чыгунцы. Арганізаваў ён дзве фотавыстаўкі: «Праца чыгуначнікаў у аб'ектыве» і «Людзі добрай работы». За працу не браў ні залатоўкі. Сапраўдны грамадскі дзеяч.

У 1974 годзе Чаромху наведала восем прафесіянальных калектываў. Зала заўжды была запоўнена па апошняе месца. З цікавейшых калектываў можна назваць Ансамбль Войск аховы пагранічча «Граніца» з Варшавы і Беластоцкую эстраду з праграмай «Весела і цвяроза». З мастацкіх калектываў прыпамінаюцца ўкраінскі хор «Траянда» з Любліна і беларускі «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага. Чарамшане мелі магчымасць удзельнічаць у спектаклях драматычнага тэатра ім. А. Вянгеркі з Беластока. Два разы выязная група гасцявала на чаромхаўскай сцэне. Дзеткі наладзілі супрацоўніцтва з лялечным тэатрам «Свершч». У кастрычніку з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі выступілі «Каласкі», якім акампаніраваў Сцяпан Копа, а канферанс вёў Янка Крупа.

У жніўні 1976 года ў рэстаране «Прыгранічная» адбылася незвычайная ўрачыстасць. З нагоды Дня чыгуначніка ГДР саветнік пасольства ГДР у Польшчы па справах камунікацыі арганізаваў сустрэчу з чаромхаўскімі чыгуначнікамі. У сустрэчы ўдзельнічалі дэлегацыі працаўнікоў цэнтральнай і раённай дырэкцыі ПКП, партыйна-прафсаюзны актыў і перадавыя чыгуначнікі. Усіх прысутных прывітаў саветнік пасольства ГДР у Польшчы і запрасіў на святочны кактэйль. У сардэчнай сяброўскай атмасферы былі праведзены размовы на тэму супольнай службы. Чыгуначнікі мелі магчымасць пакаштаваць славутае нямецкае піва. У заканчэнні сустрэчы саветніку за арганізацыю сустрэчы ад імя Цэнтральнай дырэкцыі ПКП у Варшаве падзякаваў дырэктар Будзікоўскі, ад чаромхаўскай станцыі начальнік Ежы Напюркоўскі. У той жа вечар на сцэне «Калеяжа» выступіў цыганскі калектыў «Тэрно» пад кіраўніцтвам Гіляры Курпаніка. Калектыў другі раз выступаў у Чаромсе. Публіка была зачаравана каляровымі ўборамі, цыганскімі песнямі і танцамі.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

# Веды гімназістаў па беларускай мове

**Гімназісты 11 сакавіка спаборнічалі за званне лаўрэата Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове, які адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Паколькі ў гэтым годзе завяршаецца першы этап школьнай рэформы і ў гімназіях вучацца толькі вучні трэціх класаў, да ваяводскага этапу конкурсу прыступілі толькі 8 гімназістаў. Аднак узровень падрыхтоўкі гімназістаў быў высокі і ўсе ўдзельнікі фінальнага этапу выдатна запрэзентавалі свае веды і сталі лаўрэатамі конкурсу па беларускай мове.**



Удзельнікі фінальнага этапу Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове. Максімальную колькасць балаў здабыла Іаанна Хомчук (першая справа), а на другім месцы апынулася Эва Іванюк (другая справа)

На напісанне конкурснага тэста было адведзена паўтары гадзіны, але некаторыя гімназісты сталі аддаваць свае працы камісіі раней. Усё ж такі большасць гімназістаў працавала да канца адведзенага ім часу. Удакладнілі яны, што тэст не быў складаным, але трэба было правяраць яго, каб выправіць памылкі і задумацца, ці не трэба яшчэ нешта дапісаць.

— Вучні да канца не ведаюць, якія зрабілі памылкі. Не ведаюць таксама, як іх адкрытыя адказы ацэніць конкурсная камісія. Многім здаецца, што добра справіліся з тэстам, а пасля аказваецца інакш, — перасцерагалі настаўніцы і раілі вучням займацца з тэстам поўныя паўтары гадзіны, правяраць напісанае і выпраўляць памылкі.

— Выдатная большасць пытанняў у тэсце былі адкрытымі. Каб паспяхова справіцца з імі, трэба было ведаць лексіку беларускай літаратурнай мовы, — гаварылі настаўнікі. — Калі конкурсанты ў падставовай школе і гімназіі вучыліся салідна і засвойвалі штораз новую лексіку, маюць цяпер магчымасць спакойна справіцца з адкрытымі пытаннямі ў тэсце.

Першымі выйшлі з конкурсу Эва Іванюк з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы і Іаанна Хомчук з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Пасля аказалася, што за тэст набралі яны найбольш балаў.

— За выключэннем аднаго закрытага пытання, усе іншыя былі адкрытымі. Трэба было нам напісаць характарыстыку Гусляра з паэмы «Курган» Янкі Купалы і адказаць на закрытыя пытанні да гэтай паэмы. Састаўлялі мы план да тэксту Уладзіміра Караткевіча «Куфар жыцця» і перакладалі яго фрагмент на польскую мову. Ставілі тэзіс да верша Масея Сяднёва «Айчына», абгрунтоўвалі яго чатырма аргументамі і пераказвалі змест твора Сакрата Яновіча «Вёска — багіня ганьбы». З фрагмента «Новай зямлі» Якуба Коласа трэба было выпісаць назоўнікі, прыметнікі і займеннікі. Састаўлялі мы ў пары антонімы. Трэба было запісаць словамі парадкавыя лічэбнікі і растлумачыць значэнне фразеалагізмаў, напрыклад «як дзве кроплі вады», «ані ладу, ані складу» або «рэбры ды скура». Было да выканання 13 задач, за якія можна было здабыць максімум 80 балаў. Я, рыхтуючыся да конкурсу, рабіла аналізы тэкстаў, састаўляла планы да твораў, характарызавала герояў. Рыхтавалася да конкурсу ў школе і многа працавала дома. Было мне лягчэй рыхтавацца, таму што я раней была ўжо лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове падчас вучобы ў гімназіі і пачатковай школе, — расказвала Іаанна Хомчук.

Гімназісты рыхтаваліся да прадметнага конкурсу на ўроках беларускай мовы і пазаўрочных занятках. У некаторых школах дзейнічаюць гурткі беларускай мовы, якія таксама дапамагаюць вучням у падрыхтоўцы. Настаўнікі пачыналі рыхтаваць вучняў да прадметнага конкурсу ўжо восенню мінулага года. У вопытных настаўнікаў беларускай мовы многа вучняў дабілася поспехаў у прадметным конкурсе па беларускай мове на ўзроўні пачатковай школы і гімназіі.

— Каб атрымаць званне лаўрэата Гімназічнага прадметнага конкурсу, трэба раней старанна вучыцца на ўроках і дома ў падставовай школе. Часта бывае, што тыя ж вучні, што перамагаюць у пачатковай школе, пасля становяцца лаўрэатамі і ў гімназічным конкурсе па беларускай мове. У гімназіі мы займаемся з вучнямі ў адпаведнасці з праграмай навучання. Здабытымі ведамі і ўмеласцямі вучні карыстаюцца падчас адказвання на тэставыя пытанні, а таксама ў час аналізу тэкстаў. Найбольш работы вучні выконваюць працуючы паводле конкурсных патрабаванняў, але раней здабытыя веды і ўмеласці таксама вельмі важныя, — расказвалі настаўніцы беларускай мовы.

— Тэст не быў складаным, але трэба было ўважліва пісаць, каб не зрабіць памылак у паасобных задачах, напрыклад, у час абгрунтоўвання тэзіса да верша Масея Сяднёва «Айчына», ці падчас характарыстыкі Гусляра з паэмы «Курган» Янкі Купалы, — сказала Эва Іванюк з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы.

— Конкурсны тэст не быў цяжкім, паколькі мы рыхтаваліся пад кірункам нашых настаўніц. Аднак трэба было задумвацца, каб, адказваючы на пытанні, не зрабіць памылак. Мы крыху размаўляем дома на дыялекце беларускай мовы і ведалі значэнне фразеалагізмаў, напрыклад «як дзве кроплі вады», — заявілі Вікторыя Пякарская з Гімназіі № 7 у Беластоку і Эмілія Скепка з Гімназіі ў Нараўцы.

— Тэст не быў цяжкім і на ўсе пытанні можна было даць адказы. Мы з нашай настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Бабулевіч прааналізавалі патрабаванні і цэлы матэрыял да конкурсу. Лічым, што ваяводскія эліміначы былі крыху больш складанымі за раённыя. Адказваючы на пытанні, трэба было ўважліва пісаць, каб не зрабіць памылак, — гаварылі гімназісты з бельскай «тройкі» Іаанна Нікіцюк, Анна Гадзінская і Дам'ян Бусловіч.

— Я пад кірункам настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк стаў рыхтавацца да конкурсу ўжо з пачатку школьнага года. Я стаў лаўрэатам прадметнага конкурсу па расійскай мове і там было менш падрыхтоўкі, чым па беларускай мове, паколькі не трэба было рыхтавацца па літаратуры расійскай мовы. Сёння я ведаю, як справіцца з паасобнымі задачамі, за выключэннем значэння фразеалагізмаў, але і па гэтым пытанні растлумачыў, як ведаў, — сказаў Уладзіслаў Кутузаў з Гімназіі ў Нарве.

— Восенню мінулага года да школьнага этапу конкурсу прыступілі гімназісты трэціх класаў — 25 асоб. Частка з іх была лаўрэатамі па беларускай мове ўжо раней. Толькі 8 з іх набралі адпаведную колькасць балаў, каб перайсці да раённага этапу конкурсу. З раённых змаганняў усе 8 удзельнікаў былі кваліфікаваны да ваяводскага этапу конкурсу і ўсе яны выдатна справіліся з прапанаванымі задачамі, набралі прынамсі 90% магчымых да здабыцця балаў і сталі лаўрэатамі Ваяводскага прадметнага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага вучням гімназічных школ. Паколькі ў наступным школьным годзе не будзе ўжо гімназій, гэта быў апошні прадметны конкурс па беларускай мове для гімназістаў. Пытанні да тэста падбіраліся з матэрыялу, з якім гімназісты знаёміліся на ўроках беларускай мовы на працягу трохгадовай адукацыі, маючы на ўвазе літаратуру, мову і граматыку, — распавёў каардынатар конкурсу і старшыня конкурснай камісіі Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі. Працаваў ён у камісіі разам з настаўніцай беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Валянцінай Бабулевіч і настаўніцай беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Нараўцы Анняй Кандрацюк. Пасля праверкі прац аказалася, што максімальную колькасць 80 балаў набрала Іаанна Хомчук з Гайнаўскай белгімназіі, на другім месцы з 77 баламі апынулася Эва Іванюк з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, якая дзейнічае пры Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы. Па 76 балаў здабылі і апынуліся на трэцім месцы Вікторыя Пякарская з Гімназіі № 7 у Беластоку, Іаанна Нікіцюк з бельскай «тройкі» і Уладзіслаў Кутузаў з Гімназіі ў Нарве. Лаўрэатамі сталі яшчэ Эмілія Скепка з Гімназіі ў Нараўцы, Анна Гадзінская і Дам'ян Бусловіч з бельскай «тройкі».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Пазачасавыя цацкі



**Даўнейшыя, каляровыя і экалагічныя — такія былі цацкі нашых бабуль і дзядуляў. Такія самыя і зараз вырабляе Марк Шалкоўскі з Хвашчэва што ў гміне Сідра. Тут вядзе сваю галерэю, з якой многія экспанаты трапляюць на выстаўкі рукадзелля ва ўсёй Польшчы. Найпрасцейшыя цацкі не толькі аказваюцца найбольш трывалымі, але і дазваляюць дзецям максімальна выкарыстаць сваю фантазію.**

**— Можна Вас назваць цацачным мастаком?**

— Слова мастак для гэтых усіх, якія завяршылі школы, ці акадэміі мастацтва. Я — самавук. Усё пачалося са скульптур. Мой дзядзька — Пятро Шалкоўскі мяне прывучаў. Калі я глядзеў на яго, у які спосаб выкарыстоўвае дрэва, як умее зручна працаваць долатам, гэта мяне інспіравала. З 2001 года і я пачаў вырэзваць. Гляньце, тут святы Ян Непамуцкі, такая фігура ў каплічку.

**— У Хвашчэве была такая?**

— Не, тут якраз не было. На Сакольшчыне іх многа, але каплічкі з гэтым святым найчасцей ставілі пры мастах ці рэках, а ў нас у вёсцы такога проста няма.

**— Робіце цацкі, вырэзваеце. Многа яшчэ ўмееце зрабіць з дрэва?**

— (*Смех*) Пацікавіўся я таксама ўпрыгожваннем хат. Калісьці мы на свае драўляныя хаты клалі сайдынг, зараз штораз часцей людзям залежыць на традыцыйных выразках і аздобленых ганках. Я таксама займаюся абнаўленнем антыкварных прадметаў. А пачалося гэта так, што калісьці ксёндз папрасіў мяне аднавіць стары крэданс. Я прыняў выклік. Многа чытаў, вучыўся і мне гэта спадабалася. Калі гаварыць пра выразкі, мае работы можна глядзець напрыклад у Цеханове, Новым Ліпску — тут людзі з Варшавы купілі хату і вельмі ім залежала, каб вярнуць ёй характэрны падляшскі выгляд. Пры гэтым многа работы, але эфект гэтага варты.

**— Аднак можна сказаць, што пра Вас стала шумна з часу, калі вы ўзяліся за драўляныя цацкі.**

— Тройчы прабаваў атрымаць стыпендыю Маршалка Падляшскага ваяводства — за трэцім разам атрымалася! Менавіта дзякуючы цацкам. Я сам іх праектую, а яны ўсе рухаюцца, яны кінетычныя. Колеры і спосаб упрыгожвання таксама я бяру з народнага дызайну. Усё я размалёўваю ўручную. Магу паганарыцца, што мае цацкі былі выкарыстаны ў якасці рэквізітаў у фільме, які не так даўно здымалі ў Тыкоціне.

**— А Вы, будучы дзіцём, якімі цацкамі гулялі?**

— Я гуляў такімі тыпова адпустовымі цацкамі — напрыклад, такія матылькі-клепакі. Мы тут недалёка маем касцёл, так што можна было раз у год такую цацку набыць, або прынамсі нацешыць вочы, калі бацькі не дазволілі купіць. Наогул бацькі не куплялі многа цацак і трэба было самому нешта выдумляць, знайсці, збіць цвікамі і гуляць — такія былі мае цацкі.

**— А думаеце, што драўляныя цацкі Вашай вытворчасці канкурэнтныя для каляровых кітайскіх?**

— Зараз дзеці найбольш любяць гуляць на тэлефонах, камп'ютарах... Драўляныя цацкі гэта не канкурэнцыя, але не ў тым сутнасць справы. Для мяне самым важным з'яўляецца тое, каб мая цацка развівала мануальныя здольнасці дзіцяці. Мае цацкі вельмі простыя, але яны могуць выклікаць цікавасць. Калі бацькі падбадзёрацъ сынка ці дачушку, яны могуць нават і самі паспрабаваць нешта такое зрабіць. Вядома, мы калісьці былі вымушаны гуляць нейкімі абрэзкамі, якія заставаліся ад дыскавай пілы і г.д. У нас калісьці была крама ў вёсцы



і там быў такі прыгожы самалёт. Я цэлы час думаў, што бацькі купяць яго мне пад ёлку, але не! (*смех*) Памятаю сваё расчараванне, аднак не ведаю ці сёння меў бы столькі сэрца для гэтых цацак. Праца над імі гэта таксама ў нейкай ступені сентыментальнае вяртанне ў часы майго дзяцінства.

**— Тады, як зараз дзеці ўспрымаюць Вашы цацкі?**

— Вядома, зараз іншыя часы. Дзеці выдатна спраўляюцца з камп'ютарнымі навінкамі — і гэта вельмі добра. Аднак такія цацкі таксама вучаць — так як я ўжо сказаў, мануальных здольнасцей, але таксама цярплівасці. Я сам заўважаю ў час майстар-класаў, якія вяду для дзяцей, што іх цікавяць тыя, нібыта прымітыўныя драўляныя цацкі. У мяне кожная цацка мае нейкія рухомыя элементы — дзеці пытаюцца, як гэта працуе. Тут непатрэбная электрычнасць, батарэйкі ці інтэрнэт, а цацка рухаецца. Зараз той факт таксама дзяцей захапляе. Тым больш, што дзеці ў час майстар-класаў маюць праблемы, каб забіць цвік — для мяне гэта страшна! Не ідзе пра гэта, каб кожны калісьці вырас на вялікага канструктара ці майстра, але пра здольнасці, якія ўсё-такі і ў цяперашні час патрэбныя.

**— Якія ў Вас бліжэйшыя планы?**

— Зараз чакаю цяплейшага надвор'я — мне трэба зрабіць зуброў у Белавежу. Тры!

**— На зубра патрабуеце пэўна велізарнай калоды?**

— Так, але ногі раблю асобна. Інакш яны хутка зломяцца.

**— Значыць, у Белавежы будуць стаяць зубры з-пад Янава?**

— Так (*смех*).

**— Вы — вельмі творчая асоба. Што Вам прыносіць найбольш задавальнення?**

— Вельмі на мяне ўплывае рэакцыя дзяцей. Калі бачу іхнюю радасць з цацкі, тады і я адчуваю сябе шчаслівым. Гэта найлепшая заплата за маю работу, тым больш што дзеці вельмі спантанна рэагуюць на гэта, што пабачаць. Яшчэ раз падкрэслю — мой духоўны бацька гэта Пятро Шалкоўскі. Маю вялікае шчасце, што быў пры мне таленавіты чалавек, які хацеў мне дапамагчы.

**— Зараз і Вы працягваеце яго працу. Маю тут на ўвазе адукацыйны аспект.**

— Так, мне вельмі на гэтым залежыць, каб моладзь сама пачала нешта ствараць, камбінаваць. Мае цацкі прастыя і я ўпэўнены, што пры невялікай дапамозе дзеці таксама маглі б зрабіць падобныя. Ведаю, бо і я так гуляў.

**— Дзякую за размову.**

## Раўнадушны паліцыянт

Сышоў снег, пацяплела на двары і на дарогах загудзелі, між іншым, матацыклы. Здарылася г.зв. дарожна-транспартнае здарэнне. Матацykліст пачаў выпрабоўваць, якой скорасці дасягне яго машына японскай маркі. І так вось нядаўна няшчаснае здарэнне мела месца ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. 27-гадовы мужчына са Старога Ляўкова ехаў на матацыкле з Ляўкова ў Нараўку са скорасцю 150 кіламетраў у гадзіну і паляцеў з дарогі ў роў і яшчэ далей. Хуткая дапамога завезла ездака ў гайнаўскую бальніцу, але неўзабаве верталётам адправілі яго ў Беласток.

Пасля гэтага здарэння ўжо было прыцiхла на нашых дарогах, але ненадоўга. 14 і 15 сакавіка гэтага года па Старым і Новым Ляўкове віхрам пачаў ганяцца на матацыкле іншы юнак. Я выходзіў на панадворак то па дровы, то па іншых справах і чуў ды бачыў таго шаленца. Хто ён, не ведаю. Не ўсіх жа мне знаць і ведаць (у Новым Ляўкове ведаю ўсіх, шмат гадоў быў солтысам). Гучна было на наваляўкоўскай вуліцы пасля поўдня і познім вечарам. Рухавік матацыкла роў на ўсю моц ды ажно задыхаўся. Небяспечна было выйсці на вуліцу. Ёсць у нашай гміне паліцыя і пагранічнікі, але, па ўсім відаць, недзе з'ехалі. Так часта бывае, што калі трэба дапамогі, тады яе няма. Ужо збіраўся я ісці спаць (была ўжо такая пара), а тут зноў прамчаў па вуліцы паўз маё акно той неўтаймаваны матацыкліст. Ну як на злосць.

Я пайшоў да тэлефона і набраў нумар 997. Адазваўся дзяжурны паліцыянт у Гайнаўцы. Я расказаў у чым справа і папрасіў паліцэйскае дапамогі. На другім баку провада мужчына спытаў, ці ведаю я таго матацыкліста, марку яго матацыкла, якога ён колеру, а нават адкуль ведаю, што вадзіцель ездзіць больш чым 50 км у гадзіну, чым памерыў скорасць. Вось табе на. Сам лаві таго хулігана-камікадзе.

Дзяжурны не прад'явіў ніякай ахвоты заняцца справай. А мог (ён ведае, каму патэлефанаваць і каму назаўтра перасказаць інфармацыю пра небяспечнага ездака, але не захацеў). Ён халаднакроўна ды абыякава сказаў мне пакласці тэлефонную трубку. Моў, справе канец. Навошта яго турбаваў? Хто па-вар'яцку ездзіць, няхай заб'ецца. Яму і туды дарога. Што каму суджана. А мая знаёмая сказала: «Навошта табе гэтым займацца. Пабачыш, яшчэ цябе возьмуць ды пасадзяць» (вядома, у турму).

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Больш веласіпедных дарожак

Зараз у Беластоку ёсць 117 кіламетраў веласіпедных дарожак і сёлета пабудуюць яшчэ 20 кіламетраў новых перш-наперш пры вуліцах генералаў Мачка і Клеберга, Антанюкоўскай (ад Вярбовай да Аўсянай) і Браніцкага (ад Баранавіцкай да Пястоўскай), Гміннай і Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. У гэтым годзе закончаць пабудову важнай веласіпеднай інвестыцыі ўздоўж вуліцы Васількаўскай і Высоцкага.

Веласіпедысты дачакаюцца таксама дарожкі пры вуліцы Прадукцыйнай і пры вуліцы Жаромскага (ад Пуласкага да святога Юрыя). Сёлета напрыканцы года можна будзе бяспечна ездзіць веласіпедам уздоўж алеі Падарэўскага і Незалежнасці.

І так з кожным годам у Беластоцкай метраполіі прыбывае веласіпедных сцежак, гусцее іх сетка. Найдаўжэйшы веласіпедны шлях — пры вуліцы 42 Пяхотнага палка на пасёлку Выгода. Яго даўжыня — пяць кіламетраў. Едучы ім даедзем у канец горада (далей ужо Супрасльская гміна). Адна траса ўздоўж алеі Пілсудскага вядзе пад скрыжаваннем рухлівых артэрый ды пад двума мастамі на рачулцы Белай (яна ў цэнтры горада). Варта дадаць, што язда ровaрам важна для здароўя ды і ашчадней. **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Роднае слова ў вышыванках!

За некалькі дзён — цэнтральны этап «Роднага слова».

Свята дэкламацыі, як і ў мінулых гадах, адбудзецца ў Бельску-Падляшскім 22 сакавіка. На сцэне запрэзентуюцца дашкольнікі, вучні малодшых і старэйшых класаў. Як паведамілі нас сябры-настаўнікі, у гэтым годзе шмат вучняў рашыла дэкламаваць творы «белавежцаў». Першае месца займаюць вершы з культавага зборніка «Жывінкі з глыбінкі» Міры Лукшы. Выбар тлумачаць не толькі свойскім характарам вершаў, але і ўзростам аматараў конкурсу. Як заўсёды, тут найбольш вучняў малодшых класаў...



Зараз, калі пішам гэтыя словы, шмат нашых сяброў моцна хвалюецца перад галоўным выступленнем. І разам з імі — матулі, бабулі, старэйшыя сёстры. Чаму якраз яны? Гэта яны адказныя за выгляд маладых акцёраў. Ад некалькіх гадоў з'явілася ў нас мода на вышыванку. І зараз многія матулі робяць усё, каб прыдбаць убор з народнымі ўзорамі і арнаментамі. Такі мастацкі падыход наклікае новы і «модны» характар беларускаму мерапрыемству.

Усім дэкламатарам зычым поспехаў і радасці ад выступленняў!

(больш пра «Роднае слова» ў наступных нумарах «Нівы»).

**Зорка**

МІРА ЛУКША

## Песня з Пагоняй

Бяжыць Пагоня па чырвоным полі.
Выганіць нягодніка з нашае долі.
Вершніку вецер у твар б'е вясновы,
Звонка стукочуць жалезны падковы.

Конскія грудзі рэжуць прастору.
Годзе стагнаць ды енчыць пра гора!
Годная песня з вуснаў праравецца,
На ніве ўрадлівыя зорна пральецца.

Мы пакаленнем станем чарговым,
Што сцяг свой родны ўздыме нанова.
Радзіма шчыра нам адгукнецца,
Згодна заб'юцца моцныя сэрцы.

Нашы таленты, праца, натхненне —
Новы працяг для пакаленняў.
Не вечны змагар я, а грамадзянін,
Што ў еўрапейскай сям'і разам стане.

# Смог стоп!

— Калі ў мяне падае настрой, або баліць галава, я адразу вінавачу смог, — заяўляе ліцэістка Оля, — але мае бацькі, настаўнікі гэтага не разумеюць. Яны не вераць, што ад гэтага можна памерці! Кажуць, даўней было яшчэ горш...

— Большасць з нас зусім не звяртае ўвагі, што кожны дзень гінуць дзясяткі соцень дрэў, — дадае Лукаш, — таму кожны дзень у нас менш і менш кіслароду. Як будзе так далей, усе атруцімся. Праз смог ён сам змяніў падыход да штодзённых абавязкаў. Раней кожны вечар выгульваў сабаку, шпацыраваў, бегаў. А зараз, калі высокі ўзровень забруджання паветра, ніхто з сям'і не хоча вывесці сабаку. Тое, што раней давала радасць, стала прыгнятаць. Да чаго гэта ўсё вядзе? — рытарычна пытае ліцэіст.

На мінулым тыдні, 15 сакавіка, перад беластоцкай ратушай, прайшоў маладзёвы мітынг супраць глабальнаму ацяпленню. Моладзь дэманстравала лозунгі: «Няма іншай Зямлі!», «Zegar tyka!», «Homo sapiens пад пагрозай»...




Ліцэісты гаварылі пра недахоп экалагічнай адукацыі. Звярталі таксама ўвагу на тое, што кожны з нас можа зрабіць у абарону прыроды. Гэта найперш сегрэгацыя смецця ды абмежаванне карыстання з пластмасавых вырабаў. З гэтымі праблемамі сутыкаемся кожны дзень, таму варта задумацца і пачаць ад простых рэчаў.

15 сакавіка — моладзь выступае супраць забруджванню Зямлі. Акцыю прыдумала шведская вучаніца Грэта Тунберг два гады таму. Ідэя набыла ўжо міжнародны абсяг ды дайшла да нашага Беластока. А сама 16-гадовая Грэта Тунберг заяўлена да Нобелеўскай мірнай прэміі... Гэта паказвае наколькі важнае пытанне аховы прыроды і нашай будучыні.

**Зорка**

# УВАГА КОНКУРС!

## № 12-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 7 красавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Стаяла ізба, а ў ізбе было сем акон, а на кожным акне сядзела сем кошак, а ў кожнай кошкі было па сем кацянят. Колькі ва ўсіх іх было ног? Увайшоў і я ў ізбу і маіх было дзве нагі.**

**(Д... нагі)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 8: драбіна.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Клаўдзія Ніканчук, Оля Хіліманюк, Вікторыя Якімюк з Нарвы, Юстына Астапковіч з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Аляксандра Вяслоўская, Матэвуш Асташэвіч з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Магдалена Косцік, Вікторыя Залеўская з Орлі, Мікола Лаўрашук, Юля Вінеўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Зноў залунае



# бел-чырвона-белы сцяг!

25 **Сакавіка** традыцыйна ўжо прывітаем бел-чырвона-белым сцягам. Будзем дэкламаваць патрыятычныя вершы і цешыцца спевам вясновых птушак. У гэты дзень выкажам сабе пажаданні і назавем новыя задачы і выклікі на бягучы год. Невыпадкова!

У старажытныя гады нашы продкі сустракалі Новы год якраз 25 сакавіка, разам з прыходам вясны. Памяць пра вясновы Новы год захавалася ў старых калядках і навагодніх абрадах.

З вясновым настроем сугучныя колеры нацыянальнай сімволікі беларусаў.

Мы нядаўна пісалі пра старажытныя вытокі герба «Пагоня». Таксама бел-чырвона-белы сцяг аснаваны на нацыянальных традыцыях і мастацкім гусце беларусаў. Ужо ў старажытныя гады нашы продкі ўпадабалі сабе спалучэнне белага і чырвонага колераў. Усё гэта пабачым на архаічных вышыўках, дэкаратыўнай кераміцы, штандарах ваяроў.

Што тады для беларусаў абазначае белы колер?

Белы колер гэта знак дабра, чысціні, крынічнай вады і шляхетнага серабра. Як не цікава, колер белы падыходзіць да кожнага іншага колеру. Аднак у спалучэнні з чырвоным узнікае надта энергетычны эфект.

Прыгадайма: чырвоны колер — гэта жыватворны агонь, сімвал адвагі, ваяўнічасці і храбрасці.

Не менш важная кампазіцыя сцяга з чырвонай палоскай у цэнтры. Такі знак прыкмецім на аблачэннях епіскапаў. Ён сімвалізуе струмень навукі, які выцякае са Старога і Новага запаветаў. Тады можна сказаць, што ў беларускім сцягу закладзены народныя і хрысціянскія каштоўнасці, ідэі, пачуцці. Гэтую моц адчуваюць усе! Бо, нягледзячы на забароны і пераслед, бел-чырвона-белы сцяг уздымаюць чарговыя пакаленні беларусаў. Ён заўсёды з моладдзю, з жыццярадаснай творчасцю, з надзеяй.

Як не цікава, бел-чырвона-белы сцяг нарадзіўся ў вясну народаў. Так называюць канец Першай сусветнай вайны, час адраджэння многіх дзяржаў Еўропы. Аўтарам праекта сцяга з'яўляецца архітэктар Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Пад бел-чырвона-белым сцягам у 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Ад гэтага часу бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня сталі незалежніцкімі нацыянальнымі сімваламі беларусаў.

Год таму пад знакам незалежніцкай сімволікі беларусы Беласточчыны гучна адзначылі 100 гадоў БНР.

Таксама ў гэтым годзе запланавана шмат мерапрыемстваў і лінеек. Самая мегаімпрэза пад бел-чырвона-белымі сцягамі пройдзе ў Беластоку, дзе запланаваны канцэрт Андрэя Мельнікава. Жыве Беларусь! **Зорка**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Гепард

Голад — не цётка, кажуць людзі. Ніхто не хоча гібець без яды. А ўжо калі прагаладае дзікі звер, ён не ў змозе думаць пра іншае, толькі пра мяса, мяса, мяса...

І гэта яшчэ не значыць, што сам будзе змагацца за тое мяса. У звяроў як і ў людзей, усе спадзяюцца на іншых...

Сабраўся аднойчы малады гепард са старэйшым братам на паляванне. Цэлы дзень ганяліся яны за газелямі і зебрамі і нічога не злавілі. Прыселі атупелыя ад голаду, адпачываюць. Тады малады гепард стаў папракаць брата-важака:

— Не хапае табе тактыкі і спрыту, — пачаў, — з-за тваёй няўдаласці прыйдзецца змарнець або і лапы адпруціць!

А важак адказаў яму:

— Ты сам вінаваты ў нашай няўдачы. Навошта ты плёўся ў канцы, хаваўся за маёй спіной! На паляванні кожны адзін павінен даць з сябе ўсё, толькі тады будзе ўдача і мяса.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 12-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8-2019:** Яслі, пята, ну, анод, футра, ген, душ, капуста, кіт, кактус, рыс, ара, ніз, Ян. Ян, сувенір, тын, Сі, цудак, тупат, паршук, яна, стан, тур, Ада, асада.

**Узнагароды, наклейкі,** выйгралі **Зузя Самоцік** з Нараўкі, **Юстына Астапковіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Юля Балеста, Матэвуш Бура** з Бельска-Падляшскага, **Сафія Семянюк, Наталля Стакоўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Мая Тапалянская** з Нарвы, **Вікторыя Баркоўская** з Арэшкава, **Матэвуш Сямёнчык, Сара Марціновіч** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zamieszanie | Tort | | Prostak | Przestrzeń | | | | | | | |
| | | | Wzrost | Zbuk | | | | | Stop / Chór | | |
| | | | | | | | As / Ara | | | Jar / Rzepak | Ocean |
| | Akrobata | | As / Auta | | | Opora / Ar | | | | | |
| | | Autor | | | | | | Rak | | | |
| | Wtorek | | | | | | | | Pi | | |
| | | Tur | | | | | | Asia | | | |
| | Kłamstwo | | | | | Mech | | | | | |



# Трэба было мець знаёмствы

**Размова з Міхалам ТХАРЭЎСКІМ, 1944 года нараджэння, пенсіянерам-будаўніком з Орлі.**

**— Ці памятаеце сваіх дзядоў?**

— О-о-о! Я з дзедам Пятром з боку бацькі Нікіфара коней пасвіў. Бабуля звалася Яўдося. Жылі ў Орлі недалёка царквы ў невялічкай хатцы недзе 5х7 метраў: баба з дзедам, бацькаў брат Міхал, мама з татам і мы, дзеці — сёстры Люба і Зіна, брат Лявон і я.

У размову з усмешкай уключаецца жонка спадара Міхала, Яўгенія: «Цешча Маруся расказвала, што як усе набдзяцць у той хатцы, то не было чым дыхаць».

**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства? Як гулялі?**

— Было крыху зямлі, каля двух гектараў. Калі бацька ў пачатку 1950-х стаў на працу ў цагельню Антанова, то купілі коніка. Хадзіў я ў прадшколле з калегамі Люцыкам Цэтрам, Пасечнікам...

Гулялі мы ў хованкі, гулялі ў лапту, а мячык рабілі самі са шмотак; гулялі ў пікер. Рака Арлянка штогадова разлівалася на лугі за Орляй у бок Рудутаў, то зімою рабілі карусель на льдзе. Бралі кола ад жалезняка, да спіц мацавалі жэрдку, на яе канцы прывязвалі саначкі і круцілі, як керат. І жарты выраблялі — каміны затыкалі шклом, то камусь ровар або воз уцягвалі на клуню; так было.

**— Сёння цяжка ўявіць, каб дзеці выконвалі нейкую працу, магчыма толькі, што ў вёсцы на гаспадарцы. А як было ў 1960-х гадах?**

— Мы, хлопцы, пасля заняткаў у школе коней пасвілі ў гаспадароў; плацілі па два злоты. Я пас у Лёўкі Нэстаровіча, у Карача — пасля поўдня. На супольнай пашы было каля шасцідзесяці коней, а травы мала, бо і каровы пасвіліся, і авечкі; коні былі недакормленыя. А за ракой былі ўжо пашы кашалёўцаў, за лесам таксама былі ў кожнага межы.

Хадзілі мы тады, калі пасвілі, у пяты-шосты класы. Ці сядаў на каня? Сядаў, а калі не змог, то падводзіў каня пад плот, або падкідаў каню корм, конь нахіляўся, тады яму на шыю і ён закідаў.

**— Па гэтым відаць, што кемлівасці Вам не бракавала...**

— Мы калісь на пашы ў лесе елі. Знайшлі нейкі гаршчок. Коля Федаровіч, Пасечнік, Люшык Цэтра і я пасвілі пагон авечак. Калісь усе трымалі жывёлу, кароў і коней таксама пасвілі. Было цікавае жыццё. Я лазіў на дрэвы па варон, спрытны быў. Раменьчык ад нагавіц на ногі і на хвою, дваццаць метраў, пайшоў! Нарвалі шчавуху, знайшлі бульбу. Коля кажа: «Я звару». Не было нажа, то бутэльку разбілі. І ён жывых варон патрашыў.

Часам бывала, што ў гняздзе не вароны былі, а сава, то сава атакавала і я тады хутка даваў драла. А калі мы падраслі, то дапякалі сабе, што варон елі, вітаючыся „кра-кра".

**— А я сам помню, што быў такі час у Орлі, калі пажарнікі струменямі вады праводзілі акцыі ліквідацыі варонbackslashіных гнёздаў.**

— Бо вароны вельмі паскудзілі, напрыклад на дрэвах вакол царквы, каля млына. Калісь цэлыя дрэвы былі ў гнёздах, тысячы варон.

**— Культура харчавання ў розных краінах розная. А ці здаралася, у залежнасці ад жыццёвых абставін — у час вайны, голаду ці з цікавасці — не трымацца правіл гэтай культуры? У Орлі ў 1960-х гадах датычыла гэта варонbackslashіных яек і саміх варон.**

**Некалькі гадоў таму размаўляў я з пакойным ужо Вальдэмарам Жабінскім, які працаваў электрыкам у капліцы. І ён з сантыментам паказваў мне захаваную ў ягонай майстэрні патэльню, у якой у 1960-х гадах смажылі варонbackslashіны яйкі, на закуску.**

**Іншая гісторыя, кранаючая варон, якую ў Орлі шмат людзей памятала і ўспаміналa. У 1960-х гадах у Орлі быў вучань, які насіў у школу свой заплечнік, але мала калі яго адчыняў, бо не адрабляў урокаў. Сябры-жартаўнікі падкінулі яму ў той заплечнік нежывую варону. І ён тую варону насіў даволі доўга, пакуль не стала смярдзець.**

**І хіба можна сказаць, што і ў Вас, як у вучня, было многа заняткаў.**

— І вудзіў з малога. У школе вучыў мяне настаўнік Мікалай Ляшчынскі, а меў ён сенажаць побач нашай. Бывала, што я ў часе ўрокаў уставаў і ў дзверы. А настаўнік: „Міша, куды ідзеш?" А я адказваў, што на рыбу, або па грыбы. То ён загадваў мне вывучыць нейкі вершык. І я вывучаў; сёння памятаю: „Попрыгунья стрекоза", „Reduta Ordona" — доўгі верш, яшчэ сёння яго помню. Альжбета Ляшчынская навучала матэматыцы.

**— Ці моладзь заглядала ў будынак сінагогі?**

— Заглядалі. Мы са Збышкам Савіцкім улезлі ў сярэдзіну сінагогі, на гару, на арачнае скляпенне, там былі дзіры і мы палезлі лавіць галубоў. А назад — драбіна аказалася закароткай, няма куды паставіць ног, каб злезці. А тут вечарэе. Пачалі крычаць. Прыйшоў прэзас геэсу з бічом; ён жыў побач. Пазнімаў нас, а пасля па азадках бічом. Унутры сінагогі ляталі галубы, мы тую драбіну ўзялі з мясарні, а пасля аднеслі.

Геэс трымаў у сінагозе штучныя ўгнаенні — калійную соль; і сёння з-за таго панішчаны сцены, адпадае тынк.

**— Пастаўлю Вам пытанне, як будаўніку: Ці магчыма, як некаторыя кажуць, што будынак сінагогі будавалі на яйках?**

— Была такая рэцэптура, але, мабыць, пад тыя фрэскі. Змуроўвалі вапнай.

**— Ці калісь было многа каляднікаў?**

— Вядома, ад гэтага быў заробак. Рабіў гвязду. У Орлі каляднікі за каляднікамі хадзілі. Мае бацькі збіралі ўжо дробныя грошы на тое, бо калі сам калядуеш, то і каляднікаў прымалі.

**— Як падлеткі віталі Новы год?**

— Здымалі форткі і ў снег хавалі, або заносілі на раку і кідалі ў Арлянку. То ў мяне пры камуне такія малыя дзяўчаткі забралі цяжкую жалезную браму і занеслі далёка.

**— Ці хлапчукі заляцаліся да дзяўчат?**

— А дзе! Дзеўчанят ганялі, а яны ўцякалі.

**— Ці даўней у Орлі спявалі на лавачках?**

— Спявалі. Добра помню, бо наша былая жыдоўская хата стаяла пры тратуары. Я зрабіў лавачку, а нейкія любоўнікі там спатыкаліся. То я адкрываў акно і падслухоўваў. А калі было свята, то таксама сядалі на маю лавачку, а я з вядром вады да акна і „шалюх"! Дзяўчаты мокрыя. Так было. Весела.

**— А як выглядала Ваша далейшая адукацыя?**

— Пасля падставоўкі хадзіў у сельскагаспадарчую школу ў Орлі; вучыўся два гады. Да сёння помню лацінскія назвы культурных раслін. Меў памяць, але не меў галавы да матэматыкі. А яшчэ бацька гаварыў: „Навошта табе школа?" Пайшоў да работы, бацька даваў мне работу; я араў яшчэ ў падставоўцы. Чарга на скупку жывёлы цягнулася ад школы, кіламетр было. І кантрактацыя.

**— Моладзь цікавілі танцавальныя забавы...**

— То ўжо пазней, калі падраслі. Нельга было курыць. Было мне ўжо васямнаццаць гадоў, як хтосьці са старэйшых даў мне патрымаць папяросу са шкляной люлькай, бо ён пайшоў танцаваць. То мяне армовец Васька Таранта так ззаду ўдарыў, што я тую папяросу каўтануў і выплеваў.

Калісь у Орлі быў дом культуры, туды хадзіла моладзь. А зараз хто ходзіць? Была секцыя боксу, цяжкай атлетыкі, гулялі ў настольны тэніс. Я любіў бокс, але не хацелі са мною біцца, бо заўсёды даставалі лупцоўку.

Калісь п'янства не было. І не курылі папяросаў, бо калі б паліцыянт Гладзкі злапаў, то частаваў дубінкай. Пасля дзевяці вечара моладзь не хадзіла. Як змяркала, мы лавілі вераб'ёў, каб камусь у час вяселля ўпусціць у хату.

**— Калісь было шмат паляванняў, на зайцоў. Прымалі ў іх удзел загоншчыкі.**

— То я зарабляў на загоне, у мяне грошы пазычалі. Меў я знаёмага паляўнічага Ваню Кубаеўскага. Зрабіў сабе траскотку, каб не крычаць, бо крык палохаў звярыну. Загоншчыку плацілі 10-15 злотаў. Было шмат зайцоў, курапатак. Аднойчы, калі мы выйшлі загонам на палі вёскі Мора, то мараке выскачылі з кіямі, накінуліся на паляўнічых і загоншчыкаў і Ваську Лемеша з Міклашоў страпалі так, што скорая дапамога забрала; гэта былі вясковыя бандзюгі.

Калісь, каля паловы 1960-х гадоў, арлянскі ГС зладзіў маёўку ў Крывятыцкім лесе, каля студні. Паставілі там буфет, была танцавальная забава. А бандзюгі з Мора рыхтаваліся на тафілаўцаў; у яме нарыхтавалі дубінкі, бязмены. Але хлопцы з Тафілаўцаў не прыехалі, то заатакавалі людзей з Орлі: Меркурыя, Ваську Гаўза, Кубаеўскага, Колю Чабана... Пачалі біцца, хацелі буфет разбіць. А пасля тафілаўцам наказалі, то тыя прыбылі на конях з завінутымі шматкамі на рукаятках косамі. І маране тады ўцяклі. У Моры ў той час панавалі бандзюгі — калі там забава, то заўсёды нажом парэжуць.

Старых падзей чалавек не забывае, а навейшых можа не запамятаць.

**— А адзначаць Першамай хадзілі?**

— Сакратар партыі запрашаў школу на шэсце. А ў прадпрыемствах то прымушалі хадзіць. Было файна, весела. Пасля адбывалася забава.

**— Ці давялося прымаць удзел у грамадскіх працах?**

— Хадзіў ачышчаць ад снегу дарогу да чыгуначнай станцыі Арлянка ў 1967/1968 і 1975 гадах. Ачышчалі не па дарозе, але полем. Быў Новы год, быў запрошаны на Сільвестра ў бельскі сельгасгурток, то ішлі полем. У Бельск хадзіла „тарпеда", два вагоны. Ці былі пасажыры? Трэба было стаяць, бо столькі было. А сёння пуста.

Святкавалася шумна два Сільвестры. Запрашалі мяне і па-за Орлю.

**— А як было ў Вас з войскам?**

— Быў у авіячасці ў Варшаве, на Урсынаве, у 1965-1966 гадах. У той час і мой брат быў у войску, але я не хацеў адтэрміноўкі. Камісія была хіба ў Орлі.

Прызначылі на Урсынаў, на склады, а пасля на паўтара года ў пажарную каманду. Гродзкі быў кладаўшчыком, таксама Колька Свентахоўскі з Бельска. На складзе было цяжка, то я сказаў, што я пажарнік і працаваў прафесійным пажарнікам. А пасля цэлую ноч вучыўся пра супрацьпажарную ахову. У часці не было пажарнай машыны, былі гідранты.

Помню як успыхнуў пажар, а я акурат меў службу. Падаў дождж і хіба на дрэве здарылася кароткае замыканне. Я дакладваў, што іскрыцца; магчыма, што пайшло і ад недакурка. Прыехалі цывільныя пажарнікі, але іх не пусцілі ў часць, тушылі самі.

У войску даслужыўся чыну яфрэйтара, але разжалавалі. Будавалі мы фантан, атрымаў узнагароду, кашалёк і шарыкавую ручку, частка жаўнераў атрымала пропускі, пайшлі ўсе, папілі...

Рабіў таксама халтуру, быў цырульнікам чыноў ад радавога да капітана. Часам афіцэры плацілі па некалькі злотаў.

**— А пасля войска?**

— У 1967 годзе ажаніўся з Геняй, настаўніцай з Пашкоўшчыны. І стаў будаўніком. Пайшоў на працу ў бельскую будаўнічую фірму, пасля былі экзамены і здабываў будаўнічыя пасведчанні; тынкоўшчыка. А пасля стаў сам будавацца, але таксама ўзяў майстра.

**— Як было ў той час з даступнасцю да будаўнічых матэрыялаў? Ці партыйныя мелі прывілеі?**

— Былі надзелы. Былі праблемы з награвальнікамі. Начальнікам у Орлі быў Мікалай Кадлубоўскі. Награвальнікі размяркоўвалі, напрыклад, бацюшку ці нейкаму кіраўніку, а мне не прызналі, хаця я быў у партыі. Тады я знерваваўся і адразу да начальніка гміны. Была „бура". У мяне будова, жонка цяжарная. А яны, мабыць, хацелі хабару. То ўзялі „Волгу" і награвальнікі апынуліся ў мяне на панадворку. Пасля мяне некаторыя партыйныя работнікі дакаралі: Што я нарабіў, „Волгай" прыехаў...

**— Орля пры ПНР была прамысловым мястэчкам...**

— Было ў Орлі многа розных крамаў, але таксама трэба было мець знаёмствы, трэба было і хабары даваць. За санітарнымі каленамі ездзіў я мапедам „Камар" аж у Старасельцы, цэлы наплечнік жалеза загрузіў. „Камар" быў, бо жонка ім на працу даязджала.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Музыка зайграла ў маёй галаве

**Група «Сервер» — гурт з Гайнаўкі, які ўзнік у 2007 годзе. Хаця складаюць яго маладыя людзі дык ужо не дэбютанты — выдалі яны чатыры альбомы з беларускімі, украінскімі і рускімі песнямі. У іх рэпертуары маюцца таксама аўтарскія песні на беларускай мове. Пра іх новы альбом і ўвогуле пра групу «Сервер» гутарым з яе лідарам і заснавальнікам Давідам Кротам, заадно вакалістам і лідарам гуртоў «SERVERdance» і «Немаральная прапанова», а таксама ўласнікам відэастудыіі DK Studio.**

**Юрка Буйнюк: — Хто зараз складае групу «SERVERdance»?**

**Давід Крот:** — Зараз нас пяць асоб: Ілона, Міхал, Адам, Янка і Давід.

**— Група «Сервер» існуе з 2007 года. У 2015 годзе змяніўся склад гурта. Што было прычынай?**

— У папярэднім складзе кожны з нас інакш бачыў напрамак, у якім мае далей ісці наш гурт і мы разышліся. Адна частка адышла ў свой бок, а я ў свой бок. Я бачыў будучыню гурта інакш і так атрымалася. Са старога складу «Сервера» астаўся толькі я, а тры асобы стварылі новы гурт.

**— У сваім рэпертуары маеце беларускую песню «Ты мне сказала». Музыка знаёмая, з польскага хіта «Jesteś szalona», але тэкст на беларускай мове. Хто напісаў тэкст?**

— Тэкст я напісаў пад мелодыю Януша Каноплі «Jesteś szalona». Аднойчы мы яму кажам: «Януш, мы маем тэкст на беларускай мове». Ён згадзіўся і так песня пайшла ў народ.

**— Група «SERVERdance» афіцыйна выпусціла два альбомы. Нядаўна з'явілася кружэлка «Narodnyje pieśni vol 2». Дзе яе можна купіць?**

— Яна пакуль не прадаецца. Гэта рэкламны кампакт-дыск. Мы яго раздаем на сваіх канцэртах, на вяселлях і на беларускіх дыскатэках. Афіцыйна выдадзена была папярэдняя кружэлка выдавецтвам, якое адказнае за яе распаўсюджванне на Падляшшы і Мазовіі. Мы прадалі ўсе экземпляры першага альбома, а другі альбом з'яўляецца прамацыйным. На ім трынаццаць песень, у тым ліку дзве аўтарскія песні.

**— Хто рабіў аранжыроўкі да альбомаў «Narodnyje pieśni»?**

— Аранжыроўшчыкаў было многа. Многа аранжыровак зрабілі Аркадыюш Сасноўскі і Роберт Бальцэжак. Некаторыя мелодыі я даручаў ананімным аранжыроўшчыкам. Калі іх праца нам спадабалася, мы куплялі іх аранжыроўкі і так паўсталі два альбомы.

**— Якая розніца паміж альбомамі «Narodnyje pieśni»?**

— Першы альбом у пераважнай большасці запісаны ў жанры фольк-поп. Другі альбом — больш танцавальны. У ім мацнейшы, больш дыскатэкавы гук і гэта людзям больш падабаецца. Напрыклад, песні «Ой ты, Галю» ці «Маруся» дык гэта жанр дэнс-поп. Другі дыск гэта песні з аранжыроўкамі ў стылі фольк.

**— Апрача двух афіцыйных альбомаў Вы на сваім сайце змясцілі чатыры альбомы ўсходнеславянскіх кавераў?**

— Гэта неафіцыйныя альбомы. Мы тады падрыхтавалі шэсць ці сем альбомаў з польскай і ўсходняй музыкай. Гэта былі рэкламныя кружэлкі для слухачоў.

**— Ці гэтыя альбомы выдадзены музычным выдавецтвам ці выпушчаны самастойна ?**



Фота Міры Лукшы

— Патранат трымала музычнае выдавецтва «Trax», а дыск быў роблены на ўласную руку, каб для сябе зрабіць запіс.

**— Як ацэньваеце супрацоўніцтва з музычным выдавецтвам «Trax»?**

— З уласнікам выдавецтва «Trax» Дарыюшам Вайцяхоўскім мы знаёмы здаўна. Дрэннага слова на яго не магу сказаць. Яго выдавецтва мы адносім да ролі медыйнага патранату. Усе кошты альбомаў, друку мы пакрываем з уласнай кішэні. Выдавецтва займаецца алічбоўкай і рэкламай у тэлебачанні.

**— Пагаворым пра музычную кухню: як паўстае аранжыроўка да новай песні, а дакладна якая ёсць дарога ад дэмазапісу да афіцыйнай версіі песні, якая з'явіцца на дыску?**

— Найчасцей першая версія твора выконваецца на гітары ці акардэоне з вакалам або сама лінія меладычная вакалу, або яе іграюць на клавішах са стылем. Тады аранжыроўшчык сам рашае і так стараецца зрабіць, каб нам спадабалася і мы гэта купілі.

**— У сваім рэпертуары маеце хіт «Тры чарапахі» гурта «Н.Р.М.».**

— Калі ідзе пра беларускі рок дык на Падляшшы ўсе ведаюць «Тры чарапахі». «Н.Р.М.» — гурт маёй маладосці. Калісьці мы ездзілі на «Басовішча» і ўвесь час слухалі «Н.Р.М.». А іншыя мае любімыя рокгрупы гэта «Nightwish» (фінляндская група хеві-метал — Ю. Б.) і «Sabaton» (шведская група хеві-метал — Ю. Б.). Я слухаў іх і слухаю далей. У выніку атрымалася, што песня «Сінявокая дзяўчына» выйшла ў стылі рок.

**— Адкуль такі стыль для песні «Сінявокая дзяўчына» ?**

— Найбольшы ўплыў аказаў праект «Немаральная прапанова». Гэта песня мела трапіць у рэпертуар «Немаральнай прапановы», але там узнікла праблема са складам — адышлі гітарыст, басіст і мы думалі, што «Немаральная прапанова» спыніць сваю дзейнасць. Але дагаварыліся з новымі музыкантамі. Мы падумалі песню зрабіць для гурта «Сервер». Я тэкст напісаў, ён ляжаў і пазней мы стварылі на гэтыя словы песню.

**— Другі Твой гурт, у якім Ты спяваеш, гэта «Немаральная прапанова». У якім музычным жанры пазіцыянуе сябе «Немаральная прапанова»?**

— Мы іграем музыку ў стылі «folk/ska/rock» і думаю, што гэты стыль, а да таго народныя песні задавальняюць слухачоў.

**— Хто выступае ў гурце «Немаральная прапанова»?**

— Актуальны склад гэта Павел Галамбёўскі — бубны, Міхал Баркулак — акардэон, клавішныя інструменты, вакал, Янка Рутkоўскі — саксафон, клавішныя інструменты, вакал; Андрэй Ёрш — бас-гітара, Мацей Мацяеўскі — гітара і я — Давід Крот — вакал.

**— Дзе здымаўся кліп да песні «Калі каліна»?**

— Кліп мы запісвалі ў пару месцах. Мы вельмі доўга шукалі дрэва над вадою і ўрэшце знайшлі цікавае месца ў Бандарах над рэчкай. Мы атрымалі згоду ўласніка панадворка і знялі вобраз, які пачынае кліп. Потым мы здымалі чыгуначны мост на Семяноўцы. Пасля Маёнтак Гавены — у ім выканалі некалькі здымкаў, знялі таксама пусты будынак. Пасля гэтага здымалі апусцелую сядзібу ў Ксянжыне. Парасkіданы вакол цэглы дадавалі смаку кліпу, а пры нагодзе мы мелі дах над галавой, калі ў час здымкаў падаў дождж.

**— Колькі канцэртаў да гэтай пары зайграла «Немаральная прапанова»?**

— Кажучы шчыра, не ведаю. Многа іх было. Асабліва падчас першых 2-3 месяцаў, калі мы зайгралі 12 канцэртаў. Дарэчы, «Немаральная прапанова» існуе са жніўня 2016 года, а першае выступленне было ў Бельску-Падляшскім у «Pub Blues». Мы таксама ігралі для Вялікага аркестра святочнай дапамогі, выступалі ў беластоцкім клубе «Gwint», на маланцы на Люблiншчыне, купаллі ў Туртулі пад Сувалкамі, у Сямятычах, у наваколлі Гайнаўкі, Нарвы, Бельска, Рыбалаў, а таксама многа выступалі на пленэрных і закрытых мерапрыемствах.

**— Ці маеце ў планах дэбютны альбом гурта «Немаральная прапанова»?**

— Так, маем такі план. Камплектуем матэрыял для дыска і малымі крокамі рэалізуем задуманую мэту, каб выпусціць дыск. Пакуль на патрэбы канцэртаў мы выдалі рэкламны сінгл, на якім запісаны такія песні яе «Калі каліна», «Смэрэка», а таксама наша версія песні «Mój jest ten kawałek podłogi». Калі мы ігралі канцэрты, дык рэкламны дыск раздавалі, каб моладзь магла пазнаёміцца з творчасцю гурта. «Немаральная прапанова» гэта канцэртны праект, хаця ў студыі запісваем новыя песні. Цяжэй сабрацца з хлопцамі, бо ў нас многа інструментаў і ўсё трэба рабіць ад нуля. З гуртам «SERVERdance» прасцей зрабіць аранжыроўку ці запісаць вакал. Для «Немаральнай прапановы» многа часу займае запіс. Маем ужо запісаных сем песень. Можа ўдасца выдаць альбом.

**— Які музычны праект Табе бліжэйшы — «SERVERdance» ці «Немаральная прапанова»?**

— Крышку адзін і крышку другі. «Немаральная прапанова» гэта свайго роду перадышка. «SERVERdance» больш танцавальны праект, музыка якога больш падыходзіць на вяселлі і дыскатэкі. Калі штотыдзень іграць на вяселлях, то гэтага за многа. А «Немаральная прапанова» — штосьці іншае, клімат фольк-рок, свайго роду музычная перазагрузка. А які бліжэйшы мне? Тут няма для мяне бліжэйшых. Адзін і другі музычны праект таксама файны і абодва мне падабаюцца. Калі б мне не падабаліся, дык даўно я іх пакінуў бы.

**— Год таму Вы ўпершыню выступілі на «Сяброўскай бяседзе». Як Вас прыняла публіка?**

— Першы раз удалося нам знайсці свабодны тэрмін, таму што Юрка Астапчук — арганізатар «Сяброўскай бяседы» колькі разоў запрашаў і цяжка было адмаўляць. Урэшце мы паехалі і зайгралі. Нам вельмі падабалася — файная публіка, натоўпы як на «Басовішчы». Людзі падчас нашага выступлення добра гулялі. Паводле нас — вельмі пазітыўная імпрэза.

**— Па-за ўсходнеславянскім рэпертуарам маеце таксама песні на польскай мове. Ці маладому гурту з Падляшша цяжэй прабіцца на агульнапольскі музычны рынак чым на наш беларускі на Беласточчыне?**

— Думаю, што шансы па палове, аднак прасцей трапіць да людзей з польскім рэпертуарам, таму што польскамоўная музыка таксама на Падляшшы гучыць у эфіры радыё ці ў інтэрнэце, у некамерцыйных радыёстанцыях. Думаю, што прасцей прабіцца з польскай музыкай. Хаця Падляшша гэта рэгіён нацыянальных меншасцей, дзе беларускую музыку слухае многа людзей. Напрыклад, нядаўна мы ігралі на праваслаўным вяселлі, на якім дамінавала беларуская, руская і украінская музыка і мы ігралі, як то кажуць, па-свойму. Аднак прасцей заіснаваць у польскай музыцы.

**— Вы выступілі на фестывалі «Беларуская песня». Ці вы як гурт супрацоўнічаеце з БГКТ?**

— Выступалі мы ўжо трэці год як «Немаральная прапанова» на фестывалі «Беларуская песня». А з БГКТ не маем ніякага дагавору і мы ніяк не звязаныя. Калі атрымаем запрашэнне на нейкую імпрэзу і маем свабодны тэрмін дык пад'едзем, зайграем.

**— Ты не думаў выступіць са сваімі праектамі ў шоў тыпу «Disco Star», «Mam talent»?**

— Калі ідзе пра «Disco Star», я нават пра гэта не думаю. Мы разважалі, каб з «Немаральнай прапановай» выступіць у «Must Be The Music» на тэлеканале «Polsat», але, на жаль, гэтую праграму знялі з эфіру і тэма, так сказаць, закончаная.

**— Ці ў Тваёй сям'і нехта меў музычны талент?**

— У маёй сям'і было крыху музыкаў. Брат маёй бабулі іграў на вяселлях. Мая бабуля заўсёды спявала ў царкоўным хоры. Не ведаю адкуль мая зацікаўленасць узялася. Можа папросту заўсёды нейкія гукі траплялі ў галаву, нешта я сам сабе падпяваў. Пабачыў першы раз як дзядзька іграе на гармоніку і мне самому захацелася навучыцца іграць. Ад гэтай пары музыка зайграла ў маёй галаве і іграе да гэтай пары.

**— А прыватна якую любіш слухаць музыку?**

— Зараз слухаю старыя песні «Nightwish», слухаю хеві-метал.

**— А рускі ці ўкраінскі рок слухаеш?**

— З украінскага рока слухаю «Маднри», «S. K. A. Y.», «Тік». Помню, калі яшчэ я сядзеў у Англіі, дык штодзень слухаў «Тік» ці «S. K. A. Y.». Слухаў на тэлефоне ў навушніках, едучы на працу.

**— А іншыя ўкраінскія гурты — «Скрябін», «Океан Эльзы», «Фліт», «Воплі Відоплясcова», «Помаранч», «Хвилю трымай»...**

— О, таксама я іх слухаў.

**— Ты таксама ўласнік DK Studio. Запісваеш кліпы для іншых гуртоў. Як увогуле паўстала відэастудыя?**

— З гэтым звязана доўгая гісторыя. Я ўжо даўно запісваў сюжэты на відэа. Яшчэ будучы ў белліцэі я назбіраў грошай і купіў першую відэакамеру, на якой я запісваў сюжэты са школьных гадоў. Я тады запісаў шмат фільмаў, у якіх увекавечаны хвіліны праведзеныя ў школе. І з гэтага ўсё насамрэч пачалося. Калі вучыўся на ўніверсітэце, я на відэакамеру запісваў свае экскурсіі, а таксама штодзённае жыццё. З часам купіў я лепшую відэаапаратуру і пачалі паўставаць лепшыя відэакліпы — найперш для групы «SERVERdance». На пачатку я супрацоўнічаў з Анджэем Данілецкім з ADV Film, а зараз раблю свае праекты.

**— Дзякуй Табе за размову**

— Гэта я Табе дзякую.

Гутарыў **ЮРКА БУЙНЮК**

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Выганялі тых, хто пускаў у хату вызваліцеляў

Бацькі і дзяды жыхаркі Дзятлава Галіны Калодкі (па мужу Пабядзінская) былі родам з вёскі Зачарляны. Пра гэта спадарыня Галіна распавядала падчас нашай сустрэчы ў Дзятлаве. Яе дзед з бабуляю Іосіф і Марыя Калодкі мелі ў вёсцы сваю вялікую гаспадарку. У іх нарадзіліся трое дзяцей — сын Пётр, дочкі Вера і Ліда. Іосіф Калодка меў яшчэ родную сястру Марыю.

„Дзеда з бабай я не памятаю, а бацькі майго не стала 6 гадоў таму. Я часта яго ўспамінаю. Ён заўсёды з радасцю прыгадваў родную Беласточчыну і сваю вёску Зачарляны, дзе нарадзіўся, дзе прайшло яго дзяцінства. Са слоў таты запомніла тое, што калі савецкія войскі наступалі, то праваслаўныя беларусы ў вёсках пускалі іх у свае хаты, частавалі, радаваліся, што савецкія войскі наступаюць. А палякі, наадварот, падтрымлівалі немцаў. А пасля таго, як вайскоўцы Чырвонай Арміі ішлі далей на захад і вайна для жыхароў Беласточчыны скончылася, то там з’явіліся „лясныя браты” і вайна для беларусаў пачалася новая. Гэтыя бандыты запаміналі, хто шчыра прымаў вызваліцеляў, да тых прыходзілі і папярэджвалі, каб з’язджалі адсюль, альбо проста адразу расстрэльвалі. Цётка Вера Папова (Сохар), яна ўжо памерла летась, здаецца. Пасля вайны аднойчы пайшла яна па карову, а калі вярнулася, то яе родных людзей ужо не было ў жывых, усіх пастралялі. Пра гэта мне распавядаў мой тата Пётр Калодка”, — прыгадала Галіна Калодка-Пабядзінская.



■ Галіна Калодка з бацькам Пятром Калодкам у Дзятлаве, 1974 год.



■ У гасцях у Залеўскіх у Бацютах. Пятро Калодка, Сяргей Залеўскі, Юля Пабядзінская, Тамара Залеўская і Ганна Калодка (злева направа), 2003 год

Пётр Калодка нарадзіўся ў 1931 годзе ў Зачарлянах. Калі прыехаў у Дзятлава, то працаваў тут на пілараме, потым быў створаны мэблевы цэх, дзе ён уладкаваўся майстрам. Яго старэйшую сястру Ліду лёс закінуў у Казахстан. Ужо няма і яе на гэтым свеце. Малодшая сястра Вера яшчэ жыве, працавала яна настаўніцай.

У Дзятлава сям’я Калодкаў з Зачарлянаў прыехала працяг ☞









У мінулым нумары „Ніва” пісала пра адну з фірмаў, якая аказвае паслугі ў пошуку генеалагічных каранёў. Гэтым разам не лішнім будзе пазнаёміцца з тымі, хто займаецца генеалогіяй не столькі дзеля прыбытку, а збольшага з-за зацікаўленасці. Зразумела, што такімі апантанымі генеалагістымі могуць быць перш за ўсё навукоўцы, у прыватнасці тыя, якія аб’ядналіся ў гурток „Радавод”, што калісьці быў створаны на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ). А каб бліжэй пазнаёміцца з гэтым гуртком, варта зазірнуць на яго сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе **http://radawod.by.**

„Дадзены генеалагічны партал створаны па ініцыятыве грамадскага аб’яднання — гурток даследчыкаў генеалогіі „Радавод” пры гістфаку БДУ — у асветніцкіх і навуковых мэтах, а менавіта накіраваны на паляпшэнне метадычных навыкаў у пошуках сваіх каранёў, павышэнне генеалагічнай культуры і гістарычнай свядомасці аўдыторыі”, — паведамляецца на галоўнай старонцы сайта.

Пра гісторыю гуртка і тых асоб, якія яго стварылі, распавядаецца ў падрубрыцы „Гурток «Радавод»” у рубрыцы „Дзейнасць”. Адтуль мы даведаемся, што гуртку ўжо 10 гадоў. А яго старшынёй з’яўляецца кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры крыніцазнаўства гістфака БДУ Андрэй Латушкін. Праўда, пра дзейнасць гуртка з аднайменнай рубрыкі даведацца цяжка. У падрубрыцы „Мерапрыемствы” знаходзіцца толькі адно паведамленне, якое тычыцца конкурсу па генеалогіі, што прайшоў у 2012 годзе. Падрубрыка „Праекты” ўвогуле не змяшчае аніякай інфармацыі. З гэтага ствараецца ўражанне, што створаны дзесяць гадоў таму гурток, не надта рупіцца пра тое, каб пра яго дзейнасць стала больш вядома. Але, магчыма, гэтае ўражанне памылковае, бо навінных паведамленні на сайце абнаўляюцца даволі часта.

Акрамя расповеду пра генеалогію, на якую адведзена цэлая рубрыка, сайт змяшчае інфармацыю пра сумежныя дысцыпліны — некрапалістыку, геральдыку і антрапаніміку. Як і генеалогія, яны ўваходзяць у сферу зацікаўленасці сяброў гуртка. Кожная такая рубрыка падзелена на тры аднолькавыя падрубрыкі — „Інфармацыя аб дысцыпліне”, „Артыкулы”, „Літаратура” і „Спасылкі”. Праўда, частка з іх не змяшчае аніякай інфармацыі. Напрыклад, немагчыма пазнаёміцца з літаратурай ні па адной з вышэйзгаданых дысцыплін, акрамя генеалогіі.

Разам з тым у кожнай рубрыцы напоўнены зместам падрубрыкі з інфармацыяй пра гэтыя дысцыпліны. І гэта будзе карысна для тых, хто зусім не ведае, што вывучаюць некрапалістыка, геральдыка ці антрапаніміка. Напрыклад, першая займаецца пошукам, апісаннем, зберажэннем гістарычных могілак, навуковым асваеннем іх гісторыка-культурнага і генеалагічнага патэнцыялу. Прычым, інтарэс да народных пахавальных практык зафіксаваны ўжо ў этнаграфічных працах беларускіх навукоўцаў XIX — пачатку XX ст. Другая дысцыпліна гэта сістэма ведаў пра гербы, правілы іх складання і выкарыстання, а трэцяя — накірунак спецыяльнай гістарычнай і філалагічнай дысцыпліны анамастыкі, які займаецца даследаваннем паходжання, фарміравання і варыятыўнасці імён, прозвішчаў і мянушак.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з календара

## 210 гадоў з дня нараджэння

# Тамаша Аўгусціновіча

Беларускі падарожнік, асветнік, геабатанік, лекар Тамаш Аўгусціновіч нарадзіўся ў 1809 г. у мястэчку Крывічы на Мядзельшчыне ў беднай сям’і селяніна Мацвея Аўгусціновіча. Паводле іншай версіі нарадзіўся ён у вёсцы Кокішкі пад Панявежай (цяпер Літва). Дакладная дата нараджэння невядомая, біяграфія Аўгусціновіча беларусамі мала даследавана і вядомая.

З вялікімі матэрыяльнымі цяжкасцямі Тамаш Аўгусціновіч скончыў Свіслацкую гімназію. У 1830 г. паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, які ў 1832 г. быў закрыты за ўдзел студэнтаў у паўстанні 1830-1831 гг. Медыцынскі факультэт перайменавалі ў Віленскую медыка-хірургічную акадэмію, якую Аўгусціновіч скончыў у 1835 г. з залатым медалём.

У час вучобы Аўгусціновіч напісаў дапаможнік для студэнтаў „Хірургічныя інструменты”, у якім змешчана 50 табліц-ілюстрацый. Пасля заканчэння акадэміі ўлады, баючыся рэвалюцыйнага духу выпускнікоў, не давалі яму магчымасці займацца навукай і накіравалі на ваенную службу лекарам бранскага палка стралкоў, дзе ён прабыў да 1842 г. Выйшаўшы ў адстаўку, Аўгусціновіч некаторы час працаваў на Палтаўшчыне, дзе вывучаў лекавыя расліны, апублікаваўшы трактат „Аб дзікарослых лекавых раслінах Палтаўскай губерні” (Кіеў 1853), потым у Курскай і Пермскай губернях. У студзені 1871 г. быў пераведзены ў Пецярбург.

У 1871-1872 гг. Аўгусціновічу было даручана вывучаць побыт пасяленцаў Сахаліна. Спусціўшыся па рацэ Амур у порт Дуэ, даследчык цягам 9 месяцаў збіраў розныя расліны, вёў дзённік, на аснове якога потым напісаў артыкул „Жыццё рускіх і іншанародцаў на востраве Сахалін”. У іх шмат месца адведзена апісанню карэнных жыхароў вострава — ніўхаў, орачаў і айнаў, прыведзены падрабязныя звесткі пра іх жыццё і побыт. У 1874 г. Тамаш Аўгусціновіч быў накіраваны ў Якуцію змагацца з заразнымі хваробамі. Ён аб’ездзіў Вілюйскую і Калымскую акругі, лячыў людзей, апісваў побыт абарыгенаў, збіраў лекавыя расліны. Аўгусціновіч быў першым вучоным-батанікам, які пранік у Сібір. Вынікам яго навуковай працы стаў гербарый з 40 тысяч відаў сібірскіх раслін. Да яго прывозілі хворых за сотні кіламетраў, верачы ў цудадзейнае лекарскае ўменне.

У нарысе „Тры гады ў Паўночна-Усходняй Сібіры за Палярным кругам” Аўгусціновіч апісаў суровае жыццё золаташукальнікаў на Лене і Віціме. Ён звярнуў увагу на працавітасць юкагіраў, сумленнасць чуванцаў, рахманы норай амокаў, стараннасць эвенкаў. Апошніх ён называў лепшымі стралкамі тых мясцін. З запісак Аўгусціновіча вынікае, што юкагір Астракоў яшчэ ў пачатку XX ст. уводзіў грамату сярод супляменнікаў, а ў жытлах эвенкаў бездакорная чысціня і парадак. Шмат месца ў апісанні адведзена кірмашу ў Анюйскай крэпасці, куды збіраліся жыхары з навакольнай тундры.

Апошнюю сваю паездку Аўгусціновіч здзейсніў у 1880 г., праплыўшы параходам з Адэсы праз Індыйскі і Ціхі акіян зноў на Сахалін. У час падарожжа ён сабраў шмат узораў раслін, рыб, паўзуноў, насякомых. Гэту калекцыю Тамаш Аўгусціновіч перадаў у Пецярбург — у Галоўны батанічны сад і Батанічны сад Акадэміі навук. Яго калекцыі склалі аснову для вывучэння раслiннага свету Паўночна-Усходняй Азіі. На працы Аўгусціновіча спасылаўся Антон Чэхаў у сваёй кнізе „Востраў Сахалін”. У яго гонар названа гара на Сахаліне і адзін з відаў асакі.

Памёр Тамаш Аўгусціновіч у 1891 годзе ў Свянцянах (цяпер Швянчоніс), дзе і пахаваны.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Віктар Швед

## Змагары

*Беларускасці абаронцы,*
*Замкнёныя ў сваіх кватэрах.*
*Ужо мы мала бачым Сонца,*
*У зямное жыццё не верым.*

*А райскае нам невядомае,*
*Мо будзе толькі элітарнае?*
*Мы аднаго заўжды свядомыя:*
*Чакае нас зямля цвінтарная.*

*Рыхтуецца тут неўзабаве*
*Усім нам вечны адпачынак.*
*І будзе тут усё па справе.*
*Хай помніць нас наша Айчына.*

*Нашчадкі нашы на магіле*
*Скажуць нам дарагія словы:*
*Нашы настаўнікі вучылі*
*Любіць наш край і сваю мову.*

*Што іскра прабліскам надзеі*
*І полымем успыхне яркім.*
*І ажывуць усе ідэі,*
*Што нам аставілі ў падарку.*

**Беласток,**
**10 сакавіка 2019 года.**

# Дзень Волі – 2019 у Беластоку

Арганізацыйны камітэт святкавання сто першай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі сардэчна запрашае чытачоў «Нівы» на ўрачыстыя мерапрыемствы, якія адбудуцца ў нядзелю 24 сакавіка 2019 года ў Беластоку.

*У праграме:*

10:00 Царква св. Яна Тэолага, вул. Збігнева Герберта 1 • Святая літургія і малебен за беларускі народ

15:00 Кафэ „Zmiana Klimatu", вул. Варшаўская 6 • урачыстыя віншаванні • канцэрт Андрэя Мельнікава

## Лёс беларусаў Беласточчыны

ў 1946 годзе. На Беласточчыне засталіся сваякі па дзеду Іосіфу Калодку. Там з сям'ёй працягвала жыць родная сястра Іосіфа Калодкі Марыя Залеўская. Жылі яны ў Бацютах. Па словах Галіны Калодкі, упершыню яны наведалі сваякоў на Беласточчыне тады, калі ёй было 6 гадоў. А потым да сваіх землякоў ездзілі кожны год. „Адзін раз у год можна было пераходзіць беларуска-польскую мяжу, каб сустрэцца са сваімі роднымі. Мяжа была адкрыта. Мы гэта выкарыстоўвалі і заўсёды туды ездзілі", — распавядала спадарыня Галіна.

■ Галіна Калодка прыгадвае сваіх сваякоў з Беласточчыны, люты 2019 год

Галіна Калодка сказала, што ніякіх фотаздымкаў і дакументаў у іх хатнім архіве няма. Я быў здзіўлены: няўжо не захавалася ніякіх фотаздымкаў дзядоў і бабуль, бацькі, маці, дакументаў з Беласточчыны? Такога не можа быць. У многіх рэпатрыянтаў такія папяровыя сведкі іх жыцця на беларускай Беласточчыне ёсць, зберагліся ў альбомах і куфэрках. Але, справа ў тым, што да сённяшніх дзён у тых польскіх беларусаў ці ў іх дзяцей і ўнукаў, жыве нейкі страх штосьці паказаць, даць апублікаваць, яны баяцца мінулага, асцярожнічаюць, хаваюць. Лепш няхай прападуць гістарычныя сямейныя дакументы, чым іх апублікуюць, раскажуць людзям праўду.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Адгаданка

**1.** моцны холад, сцюжа, **2.** 2,54 см, **3.** туша забітай жывёлы, **4.** майстар па будове печаў, **5.** у водаправодзе, **6.** драўляная пасудзіна для замешвання цеста, **7.** гучны смех, **8.** ахапак дроў для пераносу на руках, **9.** шкло ў акне, **10.** вёска, **11.** частка плуга, якая адразае пласт зямлі і адвальвае яго, **12.** сталіца Заіра.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаных дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | | | | | |
| | | | | 3 | 4 | | 5 | | 6 | | |
| | | | | | | | | | | | 7 |
| | | | | 8 | | | | 9 | 10 | | |
| 11 | 12 | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Каўчэг, дуэт, Ніксан, псалом, кляштар, каўпак, сядло, буер, Сірыя, жыццё, мат, аўсянка, вясна, сабака.

Рашэнне: **Яшчэ гэткі не спаткаўся, каб усім ён спадабаўся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 24.03 — 30.03

**(22.03. — 20.04.)** Можаш узяцца за большыя пакупкі, асабліва ўдалая купля адзення (25-29.03.). Вялікую прыемнасць зробяць табе шпацыры па кірмашах, пошукі ў секанд-хендах. Але добра пільнуй свайго кашалька! Можаш быць раздражнены, няўпэўнены. Не застудзіся. Праводзь час на медытацыі, можаш шмат што адпусціць — будзеш здаравейшы і весялейшы.

**(21.04. — 21.05.)** Да 27.03. не афармляй важных дакументаў. Зварухнеш новыя задумы і рушыш да іх рэалізацыі, могуць цябе выслаць на сустрэчу з ключавым кліентам, да працы над важным праектам. Хаця можаш мець праблему з датрымліваннем дамоў. Прымі штосьці на папраўу канцэнтрацыі. Здаўна папсаваныя лады ў пары могуць парвацца без вялікага шкадавання. На працы бліснеш талентамі, здзейсніш свае мары.

**(22.05. — 22.06.)** Да 27.03. падвучвайся, прымай удзел у курсах, папраўляй арганізацыю працы. Будзеш вельмі падатлівы на ўплывы іншых. Акружайся асобамі, з якімі спалучае цябе глыбокая духовая сувязь. Можаш змагацца з кепскім звычкамі, трымацца дыеты, хаця не будзе лёгка. Шпацыруй, але цёпла апранайся.

**(23.06. — 23.07.)** Да 27.03. парадкуй адносіны са сваякамі, сябрамі. Шматлікія сюрпрызы і надта цікавыя прыгоды. Сустрэча з асобай з далёкіх бакоў можа стаць пачаткам вялікага кахання. Знойдзеш урэшце час для сяброў. Дзейнічай асцярожна, адчуй момант, а будзеш мець гарантаваны поспех. Карыстайся экалагічнай касметыкай і прадуктамі. Можаш прагля-нуць сваю шафу.

**(24.07. — 23.08.)** Сардэчная атмасфера вакол сябе. Поспехі на працы. Можаш падумаць аб нейкай паездцы ў файнае месца. Увесь час гайданка настрояў у пары — можа, паедзьце кудысьці разам? Прыязны клімат на працы. Набярэшся самаўпэўненасці, спазнаеш свае добрыя і благія бакі. Дзякуючы большай актыўнасці не мусіш пашыраць гардэробу.

**(24.08. — 23.09.)** Твае справы пойдуць хутчэй і лепш, чым ты спадзяваўся. Калі хочаш узмоцніць сваю пазіцыю ў фірме, рызыкні. Ёсць канкурэнцыя — і добра! Пакалегуйся з кімсьці, каго больш любіць шэф. Размовы з шэфам удадуцца, але не прыкладвай увагі да абяцанняў, якія складзе табе 24-31.03. У пары паляпшэнне адносін. Хопіць энергіі і сілы для рэалізацыі планаў. Да лекара сходзі пасля 27.03., будуць меншыя чэргі. 24-31.03. задбай аб свае ныркі.

**(24.09. — 23.10.)** Паверыш у свае каштоўнасці. Тваімі сардэчнымі справамі апякуецца Венера. 25-29.03. пэўная выпадковая сустрэча дасць пачатак любоўнай прыгодзе. Дробныя перашкоды ці спазненні ў вашых супольных планах магчымыя 24-31.03. Магчымыя праблемы са страўнікам, не еж абы-дзе, правярай тэрміны годнасці харчоў. На боль пазваночніка добра зробіць табе басейн.

**(24.10. — 22.11.)** 24-31.03. твой партнёр можа цябе падмануць, расчараваць; раман наладжаны ў гэты час хутка акажацца памылкай. 24-31.03. могуць заблытацца нават самыя простыя справы. Будзеш злосны, раздражнены. Не раздзірай ран і не злуйся на блізкіх. Важныя выдаткі плануй на апошнія дні сакавіка. Не скідай шапкі і не расшпіляй паліто зарана.

**(23.11. — 22.12.)** Вакол цябе інспіруючыя людзі, трымайся з імі разам. З імі добра папрацуеш і правядзеш свабодны час. Форма не папсуецца. Возьмешся за працу; маеш добрую руку да інтарэсаў. Пастарайся паправіць хутка памылкі. У пары пару геніяльных ідэй. Будзь асцярожны з людзьмі, з якімі пазнаёміўся ў апошні час. Пры дыеце слухай арганізму — ён ведае, чаго яму трэба.

**(23.12. — 20.01.)** Час на добрую забаву. Належыцца табе рэлакс і прыемнасці! Ёсць асобы, якія ў гэтыя дні ў тваім жыцці крыху намяшаюць. Будзеш неспакойны, нават раз'юшаны, захочаш помсціцца на канкурэнцыі. Не раскідвайся грашыма, нават калі іх у цябе шмат. 24-31.03. можаш мець сумненні наконт сваіх рашэнняў.

**(21.01. — 19.02.)** Здабудзеш новы досвед. Хаця не ўсё ўдасца па тваёй думцы. Новыя магчымасці, новыя людзі, сімпатыя атачэння, дасі рады ў новых сітуацыях. Лёгкае знаходжанне новых рашэнняў, здабыванне грошай 25-29.03. Можаш атрымаць узнагароду або выйграць, павысіцца стандарт твайго жыцця. Не рабі нічога ў апошні момант.

**(20.02. — 21.03.)** Твае неканвенцыянальныя паводзіны і актыўная пастава прынясуць поспех. Шчаслівыя нагоды, лаві момант! Удала паафармляй розныя складаныя справы. 24-31.03. выдатна падзейнічаюць на цябе музыка і паэзія. Многа працы, сустрэч службовых падарожжаў. Здабудзеш важныя інфармацыі, нават з плётак. Да 27.03. не найлепшы час на экзамены, хіба што ўдала пойдуць папраўкі. Паладзіш бягучыя справы. Сходзі на медагляд.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

**Ранішні поезд з Беластока прыязджае ў Саколку каля шостай. Едзе далей у Сувалкі, праводжу яго зрокам — паехаў адзін пасажыр. Вакзальны будынак плача адпадаючым тынкам. У чыгуначнай пачакальні пуста, білетная каса не працуе ад трох гадоў. А гадоў яшчэ бадай пятнаццаць таму аўтобусы адпраўляліся з чатырох прыпынкаў; зараз з аднаго. У напрамку Беластока чакае адна пасажырка, у аўтобусе ў Карыцін адна пасажырка, у Кузніцу — толькі вадзіцель. У Мінкоўцы, з якіх аўтобус вернецца ў Саколку, забіраюся толькі я, у Сухінічах даходзіць чацвёрка пасажыраў. У Бабіках злажу з аўтобуса, а забіраецца двойка пасажыраў. Ранішні аўтобус па гэтым маршруце забірае людзей у Саколку, пасля поўдня той жа трасай будзе везці тых жа пасажыраў назад.**

У Бабікі наведваўся я адносна даўно і ў памяці асталася толькі вельмі агульная тапаграфія вёскі, якая ў палове 1970-х гадоў была нейкі час гмінным цэнтрам. Зараз там адчуванне апусцеласці. Кіёск насупраць аўтобуснага прыпынку даўно страціў пакупнікоў і нават складваецца ў мяне ўражанне, што там няма ніякай крамы, але накіраваўшыся ў дарогу ў напрамку Гаркавіч заўважаю мураванку прызначаную для гандлю. Крама „Левіятана" даволі сціпленькая; відаць, што рух там невялікі.

Вяртаюся на дарогу ў Гаркавічы. У няспешны ранішні краявід разнастайнасць уносіць пара жураўлёў сваімі крыкамі; невядома, ці яны так спяваюць, ці можа сварацца, абіраючы месца свайго летняга водпуску з зімовага выраю. Даволі ціха пры іхніх крыках чуецца шчэбет меншай птушынай брації.

Дарога з Бабік у напрамку Гаркавіч здаецца быць слаба наезджанай, быццам па ёй час ад часу праедзе толькі машына пагранічнікаў. Няма слядоў трактароў, магчыма, што з'яўяцца такія з прагрэсам вегетацыйнага перыяду, бо палі вакол дарогі абробленыя, спачатку дарога на зямным насціле, бо далей і насцілі з травы. Але бліжэй Гаркавіч з'яўляецца жвіроўка з напрамку Мінкоўцаў. А пазней і жвіроўка ў Сукавічы.

У Гаркавічах бязлюдна. Але людзі там яшчэ жывуць. На акне адной з хат грэецца спакойна кот, якому не хочацца нават адвярнуць галавы, калі яго клічу. Чутны галасы курэй. Пазней ачэпяць мяне сабакі.

На адным з панадворкаў заўважаю мужчыну, гадоў сарака-пяцідзесяці. Распытваю пра помнік пастраляным гілераўцамі жыхарам Гаркавіч; бываў я ў Гаркавічах два ці тры разы раней, але неяк не прыйшлося пацікавіцца тым помнікам. Мужчына крыху збянтэжаны візітам нечаканага госця, адказвае даволі хаатычна. Паводле яго помнік павінен знаходзіцца за вёскай налева ад дарогі ў Юраўляны...

А недалёка, у цэнтры вёскі, знаходзіцца хата, якая мела стаць славутасцю Гаркавіч. 23 ліпеня 1972 года была там адкрыта Ізба памяці прысвечаная бадай найбольш вядомаму ўраджэнцу вёскі Сяргею Прытыцкаму. З таго часу мінула амаль 47 гадоў. Зараз тая хата ў нічым не прыпамінае мемарыяла такой знакамітасці, якою на схіле жыцця стаў Сяргей Прытыцкі. Тагачасная „Ніва", апісваючы адкрыццё мемарыяла, так паведамляла: „Сяргей Прытыцкі стаў народным героем, пра якога расказваюць у вершах, кніжках і кінафільмах. Ад вясковага хлапчука з беднай хаты пад саламянай страхой завандраваў ён на пасаду Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і аднаго з намеснікаў Старшыні Вярхоўнага Савета СССР. Мікрафон далёка разносіць словы І сакаратара павятовага камітэта партыі ў Саколцы, тав. Генрыка Краўца, які гаворыць пра слаўны жыццёвы шлях Сяргея Прытыцкага. Побач яго стаяць запрошаныя госці з Варшавы і Мінска, з Беластока і Гродна". Ніўскі артыкул меў загаловак „А памяць будзе жыць вечна".

Хата прысвечаная Сяргею Прытыцкаму



# Гаркавічы



Помнік забітым 8 сакавіка 1942 года



Царква ў Юраўлянах

Памяць пра Сяргея Прытыцкага яшчэ дзесьці ў свеце жыве, але ў ягоных родных Гаркавічах яна рассыпаецца. Хата, прысвечаная ягонай памяці, яшчэ стаіць, але ўсе вокны пабітыя, ганак пабіты, фіранкі напамінаюць шматгадовую павуціну. На заржавелай шыльдзе яшчэ ржавее візітка бібліятэчнага пункта.

У 1972 годзе „Ніва" пісала далей: „Зараз у Гаркавічах няма ўжо саламяных стрэх, па вясковай вуліцы праклалі брук, у сельскагаспадарчым гуртку многа тэхнікі. Каля 10 чалавек з вёскі вывучылася на інжынераў і лекараў, а ўсіх з сярэдняй адукацыяй дык і палічыць цяжка". У міжваенны час у Гаркавічах пражывала бадай шэсць сотак народу, сёння там гібее мо дваццаціна таго ліку. Хто ж мае рупіцца пра тую хаціну, калі людзі пакінутыя там самі сабе і рэштаткамі сіл дажываюць свой век.

А можа ў Беларусі, дзе выпаў пік жыццёвай кар'еры Сяргея Прытыцкага, справы маюцца лепш? Вікіпэдыя (тарашкевіцай): „Забойства сьведкі на працэсе і арышт. 27 студзеня 1936 у зале Віленскага акругова суду на судовым працэсе над 17 рэвалюцыйнымі дзеячамі застрэліў сьведку з боку абвінавачаньня Якава Стральчука; пры арышце сам быў цяжка паранены. У чэрвені 1936 прыгавораны да сьмяротнага пакараньня. Прысуд выклікаў шматлікія акцыі пратэсту і кампанію салідарнасьці ў многіх краінах сьвету. У выніку сьмяротны прысуд быў заменены пажыцьцёвым турэмным зьняволеньнем. Вызвалены з турмы ў верасьні 1939 году ў сувязі з фактычным распадам польскай дзяржавы". Крыху праўды тут ёсць, але і цвёрдая хлусня. Прытыцкі толькі параніў з нагана тайнага супрацоўніка польскай Дэфензівы; Стральчук, пакуль трапіў у патойбаковы свет, зведаў яшчэ і шмат пагэтульбаковага. Больш грунтоўна, чым беларускамоўныя крыніцы, пра Прытыцкага паведамляюць польская, руская і англійская версіі Вікіпедыі...

А я тут працытую „Głos znad Niemna" з ліпеня 2011 года: „Siergieja Prytyckiego ciągnie do ZSRR. Ten wybór szybko mu się opłaci. W 1948 roku staje na czele Grodzieńskiego Obwodowego Komitetu WKP (b). Za zadanie dostał przeprowadzenie kolektywizacji na opanowanej przez polskie podziemie grodzieńskiej wsi. Kiedy Prytycki został kierownikiem, tylko 3,8 proc. ogólnej ilości wiejskich gospodarstw Grodzieńszczyzny należało do kołchozów. Już po roku jego działalności liczba ta wzrosła do 30 proc. Dokumenty z tego czasu przedstawiają obraz przemocy i gwałtu, w jakich odbywała się kolektywizacja. Ogromne podatki, konfiskaty mienia, areszty i nawet zabójstwa opornych — tak wyglądała kampania na rzecz kołchozów. — Kułak będzie próbował prześlizgnąć się do kołchozu, lecz nie po to, by tam uczciwie pracować. Kułacka ideologia będzie działać, on pójdzie do kołchozu, by niszczyć go od wewnątrz. Nie mamy prawa dopuścić kułaka do kołchozu. Niechaj was błaga, pełza przed wami na brzuchu, nie wierzcie mu, że się zmienił — Prytycki poucza wiejski aktyw wiosną 1949 roku".

І яшчэ з той жа самай крыніцы пра Прытыцкага ў той жа час: „Czarne chmury zbierają się nad jego głową. Zaczyna nim interesować się Ławrentij Canawa, szef NKGB-MGB zaufany Ławrentija Berii, dzięki temu uchodził za wszechwładną postać w powojennej Białorusi. (...) Po wielogodzinnych przesłuchaniach MGB zdobyło pierwsze «dowody» na to, że pierwszy sekretarz Grodzieńskiego obkomu przed wojną był agentem polskiej «dwójki». Canawa osobiście kontrolował sprawę, więc szybko obrastała nowymi «dowodami». Jednak Prytycki to człowiek-legenda. Postanowiono zasięgnąć opinii samego Józefa Stalina. Zadzwoniono do Stalina i opowiedziano o awanturniczych planach Canawy. Stalin wysłuchał i powiedział: «Prytyckiego musimy ochronić»".

Пакідаю Гаркавічы і намагаюся знайсці згаданы раней помнік расстраляным гітлераўцамі дзеячам КПЗБ. За падказкай майго інфарматара шнуру налева ад жвіроўкі ў бок Юраўлян. А там ужо байкаваты лясок і толькі дзе-нідзе раскіданыя камяні, па якіх трэба меркаваць, што там быў дагістарычны могільнік. Вяртаюся на дарогу і прыкмячаю на ўзгорку з другога яе боку тры валуны. Так, гэта тое месца, дзе 8 сакавіка 1942 года нямецкія прышэльцы адправілі на той свет дзевяцярых жыхароў Гаркавіч у сіле веку: Аляксандр Прытыцкі, 35 гадоў; Лявон Прытыцкі, 31; Ян Прытыцкі, 36; Павел Яцэвіч, 40; Васіль Суровец, 30; Уладзімір Усцілка, 45; Ян Філановіч, 37; Ян Кастэцкі, 30; Уладзімір Савіцкі, 30. Калісь тыя валуны былі абгароджаны, зараз з агароджы асталіся адно два слупкі.

Падаюся ў Юраўляны, на тамашнія прыходскія могілкі, спадзяючыся, што там пахаваны гэтыя гаркавічане. Юраўлянскія могілкі распаложаны каля двухсот-трохсот метраў ад польска-беларускай граніцы. І яны такія ж, як і ўсе могілкі ў нашым старонні. Шукаю прозвішча Прытыцкіх на намагільніках. Амаль у канцы некраполіі знаходжу магілу Леаніда і Яна Прытыцкіх, дваюрадных братоў Сяргея, забітых 8 сакавіка 1942 года. І магілу Аляксандра Прытыцкага, роднага Сяргеевага брата.

На юраўлянскіх могілках прыгожа абноўленая капліца. З інтэрнэту: „Першапачаткова стаяла ў вёсцы і мела імя Св. Георгія, выконвала функцыю парафіяльнай да 1865 г. Разабраная, перанесеная і асвечана ў 1868 г. Парафія аднатоўваецца ў 17 стагоддзі. Пасля другой сусветнай вайны значна абмежаваная: большасць вёсак, што ўваходзілі ў яе склад, засталіся на беларускім баку. Самі Юраўляны да 1948 г. знаходзіліся ў Беларусі". А цяпер гэта капліца пад заступніцтвам Барыса і Глеба, якіх памяць ушаноўваецца там 6 жніўня. А цяперашняя царква ў Юраўлянах была ўзведзена ў 1870 годзе. А могілкі былі закладзены ў 1848 годзе. А прыход у Юраўлянах згадваецца ўжо ў 1578 годзе.

У сеціве знайшоў я прыведзенае Сяргеем Чыгрыным выказванне выхадца з Юраўлян Мікалая Белакоза: „Кажу «Яраўляны», а не «Юраўляны», таму што ў 1939 годзе там, каля вёскі, бачыў яры. Просты польскі пісар, каб падзекавацца з селяніна ў XVI стагоддзі, даваў сялянам прозвішчы Сярун, Сцака, Пенес і іншыя непрыстойныя. А чаму б не абразіць усю вёску, хоць «юр» не мае дачынення да вёскі, але чужынцы навязалі такое гучанне: Юраўляны...»". Мабыць і тапанімія іншых нашых мясцовасцей гэтаксама цікавая...

З Юраўлян вяртаўся я ў бок Піражкоў, Астраўка... А адтуль меў час зайсці і ў Паўночны Востраў, якога афіцыйная назва таксама, як здаецца, не вельмі згодная з карэннай. Там пайшоў я на аўтобусны прыпынак, які быў на шашы ў напрамку Беластока, каб там прысесці на лавачцы і дачакаць машыны. Застаў там інфармацыю, што прыпынак перанесены на вуліцу ў напрамку Шудзялава. А як жа, стаіць там прыпынкавы слупок, але ўжо ніякай лавачкі няма. Мабыць, цяперашнія пісары не падумалі, каб запар з прыпынкам перанесці і лавачку. Галоўнае, што чыноўніцтву сядзіцца выгадна...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960